АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

ВЫПУСК 10

**Жеребецъ — Замена**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1990

ББК 81.2 Бел-4
Г51

В десятом выпуске Словаря, как и в предыдущих, раскрывается семантика слов и приводятся примеры их фиксации в памятниках различных жанров белорусской письменности XIV—XVIII вв. В алфавитном порядке размещено около 2000 словарных статей на буквы Ж — З. Выделяются фразеологические и устойчивые словосочетания, а также наиболее яркие переносные значения.

Рассчитан на исследователей языка и литературы древнего периода, историков, этнографов, краеведов.

Галоўны рэдактар А. І. Жураўскі

Рэдактар выпуска А. М. Булыка

Памочнік рэдактара Н. Ц. Кажура

Складальнікі:
Т. І. Блізнюк (задолженый — закретъ),
В. У. Мяснікова (живание — жяль),
З. К. Турцэвіч (жеребецъ — жибентяй, завидливе — задокъ),
Г. К. Ціванава (закривалный — замена),
А. І. Яновіч (з — завидити)

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук А. П. Груца,
канд. філал. навук М. Н. Крыўко

Г51 **Гістарычны** слоўнік беларускай мовы. Вып. 10. Жеребецъ — Замена / [Склад. Т. І. Блізнюк і інш.; Рэд. А. М. Булыка].— Мн.: Навука і тэхніка, 1990.—287 с. ISBN 5-343-00140-8.

Исторический словарь белорусского языка.

У дзесятым выпуску Слоўніка, як і ў папярэдніх, раскрываецца семантыка слоў і прыводзяцца прыклады іх фіксацыі ў помніках розных жанраў беларускай пісьменнасці XIV — XVIII стст. У алфавітным парадку размешчана каля 2000 слоўнікавых артыкулаў на літары Ж — З. Вылучаюцца фразеалагічныя і ўстойлівыя словазлучэнні, а таксама найбольш яркія пераносныя значэнні.

Разлічан на даследчыкаў мовы і літаратуры старажытнага перыяду, гісторыкаў, этнографаў, краязнаўцаў.

Г $\frac{4602020000-010}{М316(03)-90}$ 127—89 ББК 81.2 Бел-4

ISBN 5-343-00140-8



# Ж

**Жеребецъ** *наз. Жарабец.* третıака и четвертока и пѣтока хто забьеть ино подлȣгъ д҃ши чіи есть жеребець [так!] и его ѡшецованью имѣет емȣ платит (Вісл., 36б—37); Михаилу Зеновъевичу 6 копъ съ корчомъ Красноселскихъ ... а жеребецъ лонъскій (КЗ, 323, 1488); братъ мой небожчикъ Ечи отписалъ ми въ духовницы жеребъца (АВК, XVII, 38, 1539); естли бы хто... державчи тое стадо жеребьца або свереп ȣ и колко их ȣморил (Ст. 1566 І, 93б); пограбилъ: ...свирепу стадную сивую одну, жеребца стадного, шерстью плеснивого одъного (АВК, XXXVI, 276, 1582); Ляхъ какъ жеребецъ ржетъ коло дѣвокъ какъ дрыгантъ коло кобылъ (Мял., 318); ѡны розмыслившисе послали ему ҃і жеребцовъ неѡбежчоных (Алекс., 26б). *Параўн.* жребецъ.

**Жеребий** *гл.* жеребей

**Жеребица** *наз. Жарабіца, жаробка.* дочкамъ своимъ за живота своего отказалъ имъ чотыромъ две сверепѣ великихъ, а жеребицу и жеребца воробьевскихъ (АВК, XVII, 407, 1556); сверипъ стадныхъ старыхъ пять а лонъ сверепокъ чотыри, а жеребицъ чотыри (АВК, VI, 89, 1589); Клячъ стадныхъ жеробныхъ пять, жеребцовъ стадныхъ третяковъ два, жеребица третячка (АВК, VIII, 466, 1593).

**Жеребная, жеробная** *прым. Жарэбная (пра кабылу).* онъ того чоловека моего збилъ и сверепу стадную строкатую жеребную у того мужика моего... взялъ (АВК, XXI, 338, 1558); у третего подданого... также пограбил свирепъ две жеребных (АВК, XXXVI, 274, 1582); узяли... сверѣпу жеробну и жеребца лонщачка (АСД, I, 183, 1590); клячъ стадныхъ жеробныхъ пять (АВК, VIII, 466, 1593); Годишевскій... клячу... жеребную, деревомъ наполъ посерединѣ перебилъ (АВК, VI, 127, 1629); Въ справе... о взятье на тотъ часъ... клячы жеребъное, коштуючое шестидесятъ золотыхъ (АВК, XXVIII, 419, 1667).

**Жеребокъ** *наз. Жарабок.* Наперод, вся маетност моя, то естъ меновите: ... жеребокъ 1, коней гнедых 2 (ИЮМ, XXV, 175, 1637).

**Жеребчикъ** *наз., памянш. ад* жеребецъ. Въ оборѣ быдла — волы два ... жеребчикъ лонскій не валошоный одинъ (АВК, XIV, 77, 1563); жеребцовъ стадныхъ третяковъ

два, жеребица третячка; жеребчикъ мощекій (АВК, VIII, 466, 1593).

**Жеребя, жеребье, жеребья** *наз.* **1.** *Жарабя.* хто комȣ забьеть жеребѧ три грівны маеть платить (Вісл., 36б); Левъку Басъману жеребя въ Михаила (КЗ, 232, 1486); моуж же дȣблинат осердѣеть и жеребѧ дикое ч҃лкъ родитсѧ (Зб. 262, 16б); гдѣ бы кольвекъ было стадо у дворѣ нашомъ, повиненъ державца въ доброй опатрности мѣти, яко бы отъ голоду, або зъ зимна жеребята або свирѣпы не здыхали (АЗР, II, 199, 1529); за лонское жеребꙗ полкопы гроше (Ст. 1566 I, 95); другая свирепа вороная з жеребятемъ гнедымъ (АВК, XXXVI, 48, 1582); Обора двора Дубянского... клячь стадныхъ двѣ, рабочая кляча одна, жеребье такрочное одно (АВК, XIV, 500, 1594); жеребѧ волкъ заевъ (Барк., 152б); жеребья дей той сверепы шерстью ворононькое (АВК, XVIII, 224, 1610). *Параўн.* жребя ў 1 *знач.*

**2.** *Дзіцяня асліцы, вярблюдзіцы.* Мовилъ имъ идите в весь, котораꙗ противъ вамъ, и натыхъместъ найдете осьлицу привѧзаную и жѣребѧ з нею (Цяп., 28б); Привели осьлицу и жеребѧ и взложили наверхъ ихъ одежи свои (Там жа); послал... велблюдиц дойных з жеребꙗтами (Біблія, 71); привꙗзȣючи до винницы жеребꙗ своег а до виннои матицы, ѡ сынȣ мо ѡслицȣ свою, ѡмые в винѣ шатȣ свою (Бельск., 34б); послал дары братȣ своемȣ... велблюдицъ дойных з жеребѧтами ихъ л҃ (Хран., 50). *Параўн.* жребя ў 2 *знач.*

**Жеребятко** *наз., памянш. ад* жеребя ў 1 *знач.* мне ѡнъ давывалъ... жеребꙗтъко ȣ полътретꙗдцать гроше (КВЗС, 125б, 1539).

**Жеребячий** *прым.* *Жарабячы.* хто имаеть стадо коннаꙗ а любо жеребѧчьꙗ имаеть под стороже паствить (Вісл. 37б).

**Жерело** *наз.* **1.** *Крыніца.* докȣль не оурветсѧ поворозъ серебреныи и зламлетсѧ кȣбокъ златыи розломитсѧ оуставка на жерелѣ и зламлетсѧ колесо на долъ (Зб. 262, 92—92б); которыи выпоущает жерела в скалах и в посредкоу горъ боудȣт прохоживат воды (Пс. XVI, 103б); отъ жерела тисяцкого на лѣвую сторону ку Днѣпру, того всего на двѣ стрѣленьи (АЮЗР, I, 171, 1570); нашли там жерола водъ велми много, котораꙗ вода была бѣла ꙗко молоко (Алекс., 36б); Граница... Ипутью вверхъ до жерела Моротыша, отъ того жерела въ лозу Лучную... Ипутью уверхъ зася до урочища Замаршовья (АЗР, V, 39, 1640); пришли до Елимъ с҃нове Ізраилеви гдѣ было в҃і жерелъ водъ, а о҃ финиковъ, и обозомъ станȣли при водѣ (Хран., 93).//*перан.* воды глȣбокии рѣчи оустъ ч҃лчьих поток кипѧчии жерело мдрсти (Зб. 262, 102); натыхместъ осѧкъло жерело крови ее и зрозумела на теле ижъ ȣздоровела ѡтразу (Цяп., 49б); которые не до ереси ꙗкое, але до подпоры правды и жерела чистого наȣки христовое идȣть (Бер. саб., 13); с кото-



рого жерела выникнȣли ежджеиѧ до римȣ по шапки кардиналскіе, по сакры, и по плащи бискȣпіи (Апакр., 171б); Сталасѧ зраненою млстью и запаленьемъ вшетечнымъ к немȣ, и розмаите жерело оное чистости ловила (Хран., 64). *Параўн.* жерло.

**2.** *Горла, адтуліна, жарало.* Жерело пак Бани внутрь было ѡт самого верху, и что зовнутрь могло видѧно быти было на единый локоть (Скар. ТЦ, 140); о которомъ в листе димаса папежа, и в листех иеронимових читаемо, а особливе і в листе до павлина римлѧнина, где грекомъ самые жерела, а римлѧномъ и латинником толко потѡчки з нихъ выходѧчіе приписȣетъ (Апакр., 181б); вспомнилъ гсдь бг҃ъ на Нѡѧ... привелъ вѣтръ на землю и оупали воды и замкнȣлисѧ жерела пропасти и хлѧби нбсныи (Хран., 15б); пустилсѧ з них пот ꙗко з жерела вода (Зб. 82, 102).

**3.** *Рэчышча.* которая се волока другая починается... одъ жерела рѣчного, западу лѣтного къ востоку зимовому (АСД, VI, 309, 1596); казал его до красног ѡгородȣ красками и квѣты розмаитыми ѡздобленого провадит в котором межи дереви и лилиꙗми над жерелом рѣчки плынȣчои ȣслано мꙗкко и дорогȣю ложȣ поставлено (Бельск., 248б).

**Жереловный** *прым. ад* жерело ў 1 *знач.* Пѵгасій: Криничныи, жерелов (Бяр., 303).

**Жерелцо** *наз., памянш. ад* жерело ў 1 *знач.* потокъ затолоченыи а жерелцо ѡтворилосѧ праведныи сколзнȣл перед нечьстливым (Зб. 262, 106б).

**Жереме** *гл.* зеремя

**Жеременье** *наз.* *Тое, што і* жеремя. Бобровые гоны... того села починаются отъ села Орѣшковского однымъ берегомъ до рубежа Блузского, по другой сторонѣ до жеременья ку той же границы Блузской (АВК, XIV, 636, 1599).

**Жеремя** *гл.* зеремя

**Жерецъ** *наз.* *Той, хто многа есць.* все ꙗко же всѧчьствȣ приключеніе ѡдно праведномȣ и нечьстивомȣ добромȣ и чистомȣ и скверномȣ и жерцȣ и томȣ што не жреть (Зб. 262, 90б).

**Жерло** *наз.* *Тое, што і* жерело ў 1 *знач.* которыи оборочает камень оу возеро водное, и невысеченый оу жерло водное (Пс. XVI, 115).

**Жерна** *гл.* жорны

**Жерновъ** *гл.* жорновъ

**Жерновый** *гл.* жорновый

**Жеробная** *гл.* жеребная

**Жерствоватый** *прым.* *Жарсцвяны, з няроўнай паверхняй.* камень великий, жерствоватый... лежитъ надъ сеножатю, прозываемою Перекопомъ (ИЮМ, XXI, 317, 1664).

**Жертва, жрътва** *наз.* **1** *Ахвяра, прадмет або жывая істота, прынесеная ў дар бажаству.* ꙗко жертву всехъ созжениѧ

возлюбилъ е (Скар. ПБ, 6); Въ е҃ днь лоуны каинъ принесе жртву неправо б҃гви (Неба, 84б); Каждому звѣдомо ижь оные ѡвцы... птахи... не съ нб҃си брали Iереи или жерци, або свѧщеници, але здѣ на земли, птаху ѡт птиц, вино ѡт лозы, овци ѡт стада, потому жь, и иншаѧ овѧда, на оные жертвы избѣрали (Будны, 214); Приносъ, приношеніе: Доброволнаа офѣра, тое що бывает приношено ѡт богатства, ѡт грошей. И теж жертва, зарѣзанаа ѡфѣра (Бяр., 126); Артеміда: приѧтна жрътва (Там жа, 236).//*перан.* смерть цнѡты естъ, гды хто живетъ Бг҃ꙋ во вшелѧкой свѧтобливости и справедливости и правдѣ, и ставаетсѧ жертвою дх҃овною благопріѧтною Бг҃ви (Сматр., 21). ◇ Безкровная жертва — *хлеб і віно (у хрысціянскім кульце), якія сімвалізуюць цела і крой Хрыста.* которые не толко безкровнꙋю жертвꙋ слꙋжбы божественъное, але и престолы... где могутъ розваливають (Унія, 42—42б).

2. *Абрад ахвярапрынашэння.* ꙗко мерзкаѧ пред҃ тобою дела чинѧху въ гаехъ и въ жертвахъ неправедныхъ (Скар. ПБ, 18); они пакъ позваша их ко жеръвамъ кумировъ своихъ (Скар. ЛК, 53б); длѧ лепшеишого вырозуменьѧ, розсмотри таины закона Моисѣова, и которіе еще до закона были. ꙗко пасха, обрезание, и жертвы, певнаѧ рѣчь ижь таины были (Будны, 211б—212). ◇ Оставити жертвы — *перастаць адпраўляць абрад ахвярапрынашэння.* та пребывает оу вѣре распѧтог. и потварила есть весь город нашь многих ѡтлꙋчила оставити жертвы бг҃овъ нашихъ (Чэцця, 61б); приносити, творити, учинити жертву — *адпраўляць (спраўляць, справіць) абрад ахвярапрынашэння.* покажѣте ми нехотѧщаꙗ приносити жертвы б҃гомъ нашим (Чэцця, 61); стретѧтсѧ с тобою три мꙋжи въсходѧщие во вефиль приносити жрътвꙋ богꙋ (Скар. ПЦ, 20б); Ерее или жеръци длѧ трѣхъ речеи в҃ законе были. Напервеи абы жертвы приносили (Будны, 121); Сице и сеи глас единою речен: Но в ынꙋ трапезꙋ въ ц҃рквах ѡт того днѧ и до прышествіѧ емꙋ жертвꙋ съвершеннꙋ творит (Навука, 41); потом ігемон жертву ꙋчинилъ идоломъ (Зб. 81, 63).

3. *Бязвінная пагібель, смерць каго-н.* ѡна се упри҃ме хрестиꙗнкою быт знала, и за тое на смерт ку пожертю ѕвѣром всказана естъ. ... назавтрее зышлосе люде҃ много на ѡное позорище коли жертва быт мела (Зб. 752, 37). ◇ Жертва святыхъ — *самаахвяраванне, бязвінная пагібель, смерць за веру ў Хрыста.* Такъ оумереть мнѣ мило (Мовитъ до насъ) ꙗкъ к҃ Бг҃ꙋ жертва ст҃ыхъ дорогꙋ беретъ (Лям., 27); принести жертву самого себе — *прынесці сябе ў ахвяру, аддаць сябе на пагібель.* Тое все Хс҃ достаточне выполнилъ. То естъ, ꙋчилъ, молилсѧ, и наконецъ самого себѣ жертву на кресте принесъ (Будны, 121б); азъ б҃гу единому иже сотворил нб҃о и землю приношꙋ жертву самого себе (Зб. 752, 24б).

4. *Розныя свяшчэннадзействы, царкоўная служба, маленне.* поднесене роук моих жертва вечернѧѧ, положи г҃си сторожю оустом моим (Пс. XVI, 136); ѡни бо вечерю г҃дню литургіею или службою и жертвою называють, длѧ молитовъ, ꙋмиленіа, и исповѣданіа, которое при вечери г҃дней бывають (Будны, 243); если жертву ꙋставичьнꙋю слꙋжбꙋ божественнꙋю антихристь маеть згладити ꙗкосъ выше҃ слышалъ, тогды сегоднешьние геретикове мꙋсеть быть не последнеишие слꙋги антихристовы (Унія, 42); До того Грекове и Русь тотъ сакраментъ называютъ жертвою за жывыхъ и за умерлыхъ (Гарм., 200). ◇ Жертвы приносити — *адпраўляць царкоўную службу, маліцца; выконваць свяшчэннадзейства.* Мовитъ писмо але ижъ се молимо за ꙋсопшых и жертвы за них приносимо и памети имъ творимъ, мꙋситъ быти ꙗко есть инъшое месьце третее (Унія, 15б); пришло до того, же вже тамъ ани жертвы светое беспечне приносити не можешъ (Гарм., 187).

5. *Ежа, страва, яда.* лѣпши кꙋс сꙋхии и миръ с нимъ нижли домъ полон жертвы сварливое (Зб. 262, 101б).

**Жертвеникъ, жертвенникъ** *наз.* **1.** *Ахвярнік, месца, дзе язычнікі прыносілі ахвяру бажаству.* Потомъ вниидоша вси людие во храмъ Ваалевъ и разбиша жеръвеникъ его (Скар. ЧЦ, 209). *Параўн.* жертовникъ I *у* 1 *знач.*, жертвеница *ў* 1 *знач.*, жертвище.

**2.** *Ахвярнік, стол, на якім рыхтуецца бяскроўная ахвяра — хлеб і віно (сімвал цела і крыві Хрыста ў хрысціянскім кульце).* А длѧ Вѣры и Православіѧ, аж до жертвенника, з҃ зневажен҃емъ не толко маетности, дигнитарства и славы, але и самого намилшого здоров҃ѧ (Паўуст., 5б). *Параўн.* жертовникъ I *у* 2 *знач.*

**Жертвеница** *наз.* **1.** *Тое, што і* жертвеникъ *у* 1 *знач.* оубьют его на жертвеницех (Чэцця, 373б).

**2.** *Спецыяльнае блюда, талерка з паддонам, якой карысталіся падчас літургіі.* при томъ служеніи въ келиху вино у воду ся прѣмѣнило безъ приливанья воды, и мусѣли у иншомъ келиху не оферованомъ на жертвеницѣ зъ дому принести вина (АЗР, IV, 214, 1600—1605). *Параўн.* жертовникъ *у* 3 *знач.*

**Жертвенникъ** *гл.* жертвеникъ

**Жертвеный** *прым.* **1.** *Ахвярны.* быс тꙋ коупѣль нарицаемаѧ ѡвчаꙗ. и тоу полокахꙋ жертвеных ѡвенъ оутробы (Чэцця, 341—341б); Съ к тому имаеть волы на всесожение, колѣса же и ꙗрма волова на дрова жертвенаѧ (Скар. ДЦ, 117).

**2.** *У знач. наз.* Жертвеная — *тое, што прыносілі ў ахвяру, ахвяра,* мꙋжъ божии... носилъ ризу жреческую предо мною. И дахъ дому ѡтца твоего всѧ жертвенаѧ сыновъ ізраилев҃ (Скар. ПЦ, 9); Прѣмудрость... закла своѧ жертвѣнаѧ изчерпа в҃ чаши вино (Там жа, ПС, 16).

**Жертвище** *наз.* *Тое, што і* жертвеникъ *у* 1 *знач.* Потом по҃мано ѡригена ѡт болвохвалцов, которы҃ не стерпѣвши мꙋкъ,

кинул кадило на жертвище ѡфѣровал болваном и прето ѡт болвохвалцов волно есть пȣщон (Бельск., 245б); не стерпѣвши мукъ, вергъ ливанъ на жертвище и далъ хвалу бѣсомъ (Пыт., 55).

**Жерти** *дзеясл.* **1.** *Жэрці, есці.* так жадного не толко человѣка але ни звѣрꙗте немашъ на свѣте ѡкрȣтног, которыꙿ бы свою кров жерлъ (Бельск., 151б); и на звѣрꙗта которые людей застȣповали и металисꙗ на них по дорогах и жерли их (Стрыйк., 614); тоꙿ конь длꙗ ѡкрȣтного воꙿзренꙗ людеꙿ жерлъ (Алекс., 5).//*перан.* съблажненье чл҃чее жерет ст҃ость а потом ѡбѣцаньемъ розсмотрѣти (Зб. 262, 103б).

**2.** *Глытаць.* Нѣкоторые с тых жидов которие приходили до воꙿска римског а жерли сребро злото и дорогое камѣне хотꙗчи так з мѣста вынести скрите. абы им не ѡтнꙗли, бȣнтовницы (Бельск., 232).

**Жертовникъ I** *наз.* **1.** *Тое, што і* жертвеникъ *у* 1 *знач.* Манасиѧ... ȣчинилъ жертовники на горахъ высокихъ (Скар. ЧЦ, 230); требник — жертовник, ѡфѣровникъ, мѣсце, где ѡфѣрȣ заколюют и спал (Зіз., 67); Пречистаꙗж дв҃ца... коли се перед жертовником богу молила, розꙗснѣласꙗ невыповѣданаꙗ свѣтлост и голос ѡт жертовника до неи приꙿде, породишъ мнѣ сына (Рым., 83); Праса есть жертовникъ: то есть мѣстце офѣр, на которомꙿ колено было розмаитое быдло (Каліст, II, 75б); даніил его сокрȣшил, и жертовник его розрыл (Жыц. св., 7); ирод росказал захарію ѡтца предотечева забит. и забит есть в церкви ȣ самого жертовника (Зб. 752, 9); Требище, Требникꙿ: Олтаръ, жертовникъ, ѡфѣровникꙿ. Мѣстце до коленѧ або рѣзанѧ любꙿ паленѧ ѡфѣръ (Бяр., 172).

**2.** *Тое, што і* жертвеникъ *у* 2 *знач.* на жертовнику келихъ, миска и ложка циновая (АСД, I, 146, 1571); абовѣм в цр҃квах хрстіѧнских двѣ мѣсца мают в олтари быти, жертовнйк и престол (Каз. Кір., 82б—83); благовѣрныхъ княжатъ Рускихъ въ стѣнѣ у церкви у жертовника скриню... выламавши, своими властными руками вынялъ (АЮЗР, II, 41, 1607).

**3.** *Тое, што і* жертвеница *ў* 2 *знач.* Діскосъ, або лавида. Нік сл: з҃г. Блюдце, жертовник малыи (Бяр., 267).

**Жертовникъ II** *гл.* жартовникъ

**Жертовничный** *прым. ад* жертовникъ *у* 2 *знач.* За три святости олтарныхъ великихъ и за четвертую малую жертовничную... выдано 20 копъ и 30 грошей (АСД, IX, 52, 1557).

**Жертовный** *прым.* *Ахвярны.* слили суть подставки и где входѧтꙿ до храму. и требникꙿ жертовныи со огнищемꙿ своимꙿ (Скар. КВ, 72б); Моисеи... Чины жертовные службы Леȣвитские оуставилꙿ (Скар. ЛК, 3).

**Жерцевъ, жерцовъ** *прым.* *Жрэцкі.* Ктожꙿ бы пакъ погорделъ и не хотелъ послухати приказаниа жерцева... да ȣбитъ будетъ человекꙿ тои (Скар. ДЗ, 35б—36); пишеть... о полици или о слове суду, еже леживало на персехъ жерцевыхꙿ (Скар. КВ, 2б); панъ богъ тое право ставитъ абы з вонтьпливостѧми ѡ наȣце и законе божомъ зноситсе до жерца то есть до каплана винъни были вси, и вырокȣ его слȣхали, и непослȣшного и в розȣме горъдого, которыи бы на вырокȣ жерцовомъ, то есть капланскомъ не переставалъ вельми карат (Бер. саб., 25).

**Жерцъ** *наз.* *Тое, што і* жрецъ. реклъ илꙗ. лживым проркомъ жерцемъ (Чэцця, 234); побиты суть во свѧтыни божией жерци и прорци (Скар. ПЕ, 7); каждому звѣдомо ижь оные ѡвцы ... соль и прочаѧ, не съ нб҃си брали Іереи или жерци, або свѧщеници, але здѣ на земли (Будны, 214); (а)ристотелю намилшиꙿ наȣчителю нашъ просимы тебе абыс з нашего скарбу роздалъ межи жерцы (попы) египетскии (Алекс., 44б); жерцы ѡного вꙿ слȣжбѣ боговꙿ лѣнивого и ѡзѧблого бытъ видѣли (Варл., 261б); тогды з гнѣву жерцы, то ест попы поганъские кинулисꙗ на мученика Ст҃ого и верещали (Пр҃лог, 615б).

**Жесткий** *прым.*//*перан.* *Жорсткі, грубы, рэзкі.* не былꙿ еси силныи во брани подати грешныхъ праведнымъ, или зверемъ дивимъ, или словомъ жесткимъ всехъ вкупѣ погубити (Скар. ПБ, 17б—18); сыну в добромъ деле не даваи жалобы, и при всѧком дании не придаваи смутку словомъ жестъкимъ (Скар. ІС, 29б); силна ꙗко смр҃ть милость и жьстка ꙗко адъ ревность (Зб. 262, 85б).

**Жестокий** *прым.* **1.** *Цвёрды.* въ ѡдра мѣсто и трѧпезы. землю имѣлъ жестокȣ. а въ вина мѣсто водȣ чистȣю (Чэцця, 38б); Амѡсъ: чрезꙿ алефꙿ ... жесток, твердъ. ый, крѣпок. або мȣжныи, дѣлныи, силныи, моцныи, дȣжій, недобытыи (Бяр., 229).//*перан.* *Моцны, цвёрды. непахісны.* радоуисѧ петре вѣро жестокаꙗ. красото цр҃квънаꙗ. ты бога ради много терпъвъ в темницахъ (Чэцця, 229).

**2.** *Бязлітасны, люты, суровы; цяжкі; злосны, гнеўны.* ѡтець твой велми тѧжкое ꙗрмо возложилꙿ на насꙿ но ты нынѣ ȣменши намъ нечто мало, ѡт панованиѧ ѡтца твоего жестокого, и ѡт ꙗрма претѧжкого иже возложилꙿ на нас (Скар. ТЦ, 155); Галиѡт порозумѣл, иж Трыщан в том невиненъ, не мѣлъ на него жестокого серца (Трыст., 76); Учыни-ж так, што ꙗ тобѣ велю, а ꙗ тебе вызволю ѡт жестокое смерти и ѡт ѡстрого меча моего (Там жа, 95—96); [еретики] зо всег панства его были выгнаны, то видꙗчи цесар, ижъ просил его ѡ реч велми прикрȣю и жестокȣ ѡто его не слȣхал (Бельск., 291); нашимъ малымъ войскомъ противъ такъ великого множества людей ... пошли есьмо на жестокій бой (АЗР, IV, 486, 1615); королевское величество тѣмъ людемъ, которые такъ дѣлаютъ, велѣлъ учинити казнь, а инымъ наказанье жестокое (Там жа, V, 28, 1637).

**3.** *Мужны, храбры, бясстрашны, доблесны.* ѡ жестокий моужю крѣпкии храбре. небсныи чл҃вче земныи анг҃ле. великии оуме (Чэцця, 38б); То ест конечно Анцолот, поехал з двора

Артиуша короля ищучы розличных и жестокихъ прыгодъ (Трыст., 79).

**4.** *Вельмі моцны (па сіле праяўлення).* Панъ Трыщанъ почалъ чынити жестокие вдарцы (Трыст., 105); Пулкан... почалъ чынити жестокие вдарцы на право и на лево (Бава, 160).

**Жестоко** *прысл. ад* жестокий *у* 4 *знач.* прышол некоторыи рыцэръ, такъ силно и жестоко збил мя напервеи сулицою и потомъ мечомъ и вчынилъ мя до конца и великои ганбе перед таким народом и перед такими людми добрыми (Трыст., 35); коли почалъ панъ Трыщан рубати велми жестоко без укрываня (Там жа, 118).

**Жестокошийный** *прым. Непакорны, непаслухмяны.* И реч гсдь моисею глаголи сыномъ ізраилевымъ людие жестокошиини есте. Единою ступлю посреди васъ и погублю васъ (Скар. КВ, 62б—63).

**Жестосердие** *гл.* жестосердье

**Жестосердый** *прым. ад* жестосердье. ѡсязаніе горяче а сам лютъ. и жестосердъ и гнѣвлив (Арыст., 186); (слияние же горяче) жилы его нарꙋжи и гнѣвливъ. и даровливъ. и въкладается въ шкоды. жестосердъ борзъ (Там жа).

**Жестосердье, жестосердие** *наз. Бязлітаснасць, лютасць, суровасць, злосць, бессардэчнасць.* елена же црца рекла им еще оу другие говорю вамъ. вѣдаетель што ѡ хѣ пророци рекли ѡ немь же ннѣ. и вас оупрошаю ѡ вашемъ жестосердьи. штожь вы завжды почитаете. а ннѣ молвите не вѣдаемъ (Чэцця, 200б); Боудет ли толстъ глас и гроубъ. знаменоует храбрость. и жестосердіе (Арыст., 199); на малый час розгнѣватися, походит подчасъ з ꙋломности людской, з нетерпеливости, але черезˢ долгій часъ трвати вˢ ꙗрости есть ненависть, жестосердіе, и правая злость (Навука, 62).

**Жестъ** *наз. Жэст.* блазенство смешки жесты непотребные и проч, которые законника чинат блазном (Зб. 261, 93—93б).

**Жесть** *наз. Бляха.* За три аркушы жести пану Агапону золот. одинъ (ИЮМ, I, 173, 1681); На ветреникъ, на погоню, жести аркуши два (ИЮМ, IV, 186, 1686); чотыры копы цвековъ до подбиваня жести (ИЮМ, X, 165, 1695).

**Жестяный** *прым. Бляшаны.* за бляхи .в҃ жестяные пану Агапону, асмак. двадцать осмъ (ИЮМ, I, 168, 1681); Лихтаръ жестяный, дали осмак. осмъ (ИЮМ, III, 146, 1685); казали зробить кварту жестяную для ревизыи (ИЮМ, X, 46, 1695).

**Жечи, жечы, жэчы** *дзеясл.* **1.** *Паліць, спальваць; знішчаць агнём.* нынѣ пакъ не только татьбою, але явно воюють, и головами въ полонъ ведуть, и мѣста и села жьгуть (АЗР, I, 71, 1456); а такъ было везвестъно и безъ отказу войны не пускати и огнемъ не жечи (КЗ, 447, 1486); хто бы хоромы, будованье рушалъ, казилъ, жогъ, въ ланцугъ маетъ всажонъ быти (АЗР, II, 37, 1508); жрець... весь ладанъ иже сверху положеный ест на крупахъ, и жечи тое бꙋдеть на требнице на паметь воню благоꙋхающꙋю гсду (Скар. КЛ, 13б—14); онъ съ тымъ сыномъ своимъ ночнымъ обычаемъ плотъ городьбы моее, отбираючи и до дому своего носечи, жъжетъ (АВК, XXI, 119, 1556—1557); [тые] домов розбирати и плотов жэчы... не мають (Ст. 1566, 24б); Бово... велелъ перед себе прывести свою матер; а коли ѡна прышла, велелъ Бово ѡгонь скласти и ее жечы (Бава, 166—167); домовъ розъбирати и плотовъ жечы... не маюць (Ст. 1588, 59); пред тымъ жгли тела мр҃твых на том местцꙋ хто где ꙋмрет (Патр. П, 86); тотъ сꙋклитъ таковъ есть ижˢ ни ѡгнь не жжет а ни желѣзомъ жадным добыт не может (Алекс. 1697, 76б). *Парайн.* жещи.

**2.** *Атрымліваць, здабываць што-н. пры дапамозе палення.* попелъ и смолу маютъ жечи въ своихъ пущахъ, а не въ нашихъ, ани въ мѣстскихъ (АЗР, I, 200, 1499). ◊ Вино жечи — *здабываць гарэлку пры дапамозе перагонкі.* промыта... и от вина горелого, хто бы потаи вино жог, с того мает всего им быти половица (Пін., 40, 1522).

**3.** *Моцна пячы, прыпякаць.* гѣмонъ... повелѣл свечами огными горящими жечи тѣло ее по ребромъ (Чэцця, 65); макриꙗнъ. повелѣлъ... свечами горящими жечи по ранам ее (Там жа, 86б); мꙋжь неоучтивыи копаеть злость а на оустѣхъ его как ѡгнь жжет (Зб. 262, 101б).

**Жечка** *наз. Тое, што і* речка. z rzeczki Dochnarycy w rzeczku, prozywaiemuju Dubowa kołoda; z toie rzeczki suchodołem rubieżami starymi po derewju roznym czerez dorohu wielikuju (ИЮМ, II, 327, 1731).

**Жечы** *гл.* жечи

**Жещи** *дзеясл. Тое, што і* жечи *ў* 1 *знач.* в том дни... пещы ставити терніе палити. павиноу жещи. поля зажигати (Неба, 87).

**Жженье, жжение, зжение** *наз.* **1** *Дзеянне па дзеясл.* жечи *ў* 1 *знач.* реклъ [нывꙋхаднецар] нажечи печь ѡднꙋ седмью алиж бы достоино к жженью (Зб. 262, 116б). *Парайн.* женье.

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* жечи *ў* 3 *знач.* тамото ꙋлица накрита звана была иже для про недомниманого слнечного зженіа. платы албо соукни чорными... зверхоу была накрита (Валх., 43).

**3.** *Паленне ў печцы, пліце; распальванне і падтрымліванне агню ў печцы, пліце.* селянѣ и подданные... отъ воженіа каменіа, протесовъ, бревенъ и дерева на жженіа плитъ, а любо мѣлу на городы ... будуть вольни (АЗР, I, 75—76, 1457).

**Жибентяй, жебентяй** *наз. Асоба, якая забяспечвала двор палівам і асвятленнем.* были иныи Мостевъ брать а Коучюкъ а Лисица жебентꙗи (Увар., 89); кестоутя оудавили... бѣликъ мостев брат а коучꙋкъ а лисица жебенътяи (Віл., 444); byli ... moster brat, a Kuczuk a Lisica żybentiay (Быx., 506).

**Живание** *наз. Тое, што і* жизнь *у* 1 *знач.* зевес, а ѡна при-

казана ... на крас8, и велебость. и на королевство. и на живаніе (Арыст., 73).

**Живати** *дзеясл. шматкр.* **1.** *Ад* жити *ў* 1 *знач.* жонѣ его тое ремество съ товаришами и учнями вольно робить и живать только до року и до шести недѣль (АСД, I, 163, 1582).

**2.** *Ад* жити *ў* 2 *знач.//перан.* ѡтрокъ... постомъ и млтвами. бговгодно живал (Чэцця, 88б).

**3.** *Ад* жити *ў* 5 *знач.* онъ туто, на Кіеву, въ насъ не живалъ, но болши пусто учинилъ (АЗР, I, 36, 1415).//*перан.* Иванъ... больше живал на небси ѡтколь ем8 даръ данъ (Чэцця, 41).

**Живелъ, живиолъ, живюлъ, жывелъ** *наз.* **1.** *Стыхія (адзін з асноўных элементаў прыроды).* Землѧ Вода ѡгонь и воздух сие четыри живела не токмо богу но и человѣкомъ послушна суть (Скар. ПБ, 29б); Манаси ... кланѩлсе и хвалу чинил слонц8, звѣздам, живіолам, и ѡлтари им ставѩл (Бельск., 133); при нароженю его видѣл живюлы пременены, теды неха б8де ховано в добро памети, ѩкобы был мо сын (Алекс., 4); всѣх бовѣм добротливый Бъ до познанѧ себе возвал, част ю оздобою створенѧ, и спорѧженемъ неба и землѣ, и инших живелъ (Каліст, II, 168); чотыри 8жове сут чотыри жывелы з которых естесмо зложены которые сѩ з собою вадѩт ѡ розсыпаню тѣла нашего насъ 8поминают (Зб. 752, 566б); Елліни зась што нечистыхъ и плюгавшихъ людеи за бги себѣ мѣвали. оуподоблѧючи и ровнаючи ихъ именамъ болшихъ звѣздъ. и тежь стіхіам (Хран., 20); Стихіа нбсныа: Съставы възд8шныѧ, нбсные живіолы (Бяр., 313); чотыри 8жов сут чотыри живелы, з которих естесмо зложени (Зб. 82, 421).

**Живенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* живити *ў* 1 *знач.* Гминъ свѣта оубогій, пишет, кладетъ то, себе змерлого... по Бѕѣ живен е ... вчасное мѣлъ по Тѣлѣ, на Дши збавене (Лям., 2); Ахісамахъ, к: Брат живѣне, або немочи, або братъ зл8чаючійсѧ (Бяр., 242—243).

**Живиолъ** *гл.* живелъ

**Живити, жывити** *дзеясл.* **1.** *Даваць жыццё, ажыўляць.* подобаеть бо боѩтисѧ бга ... многих мертвить и живить (Чэцця, 30б); занежъ Богъ и живитъ и мертвитъ, все въ его святой воли (АЗР, II, 20, 1507); Гсдь мертвить и живить, гсдь низводить въ адъ и возводить (Скар. ПЦ, 7б); Ис8съ... побилъ ест всехъ и ни единаго ѡт нихъ не живилъ (Скар. IН, 24б); не ѡтст8пим ѡт тебе бо ты нас живиш и имѧ твое призовем (Пс. XVI, 83б).//*перан.* Ты еси бгъ мои, дхъ твой добрый нехай наставит мѧ на землю прав8, и мене делѧ твоег гси живиш мѧ правдою твоею (Пс. XVI, 137б).

**2.** *Захоўваць жыццё, пакідаць у жывых.* Живъ естъ гсдь богъ бы есте были ихъ живили не погубилъ быхъ васъ (Скар.КС, 19б); Дайте ми знамѧ истинное ѩко живити вамъ мене, и ѡтца моего, и маетерь мою (Скар. IН, 7б); невиннеж гонѧт мѧ помози мнѣ и малючко не задоушили мѧ на земли предсѧж не оп8стил есми приказанеи твоих. подлоуг млсрдьѧ твоег живи мѧ и боуд8 стереч сведецствь твоих оуста (Пс. XVI, 121б—122); росказал теж сл8гам своим абы жадног з них не живили (Бельск., 127); первое пор8шене было 8чинено през антиѡха злого царѩ макидонского котори был 8мыслил жадного члвка з народ8 жидовского не живит (Кн. Мак., 65б); ижъ ты будешь ли на пришлой купе на мене инстикговать альбо што зезнавать, певне и тебе не буду живить (АВК, XVIII, 262, 1622); если ѡн ест фалшерь, ѩк вѣдаю, не живи его бже мои, абы тоеи годины не дождал (Жыц. св., 103б); а если ѡнъ ест фальшер ѩко ведаю: не живи его гсди бже мой: абы той годины не дочекалъ (Пралог, 633б); пощастилосе олофернови, ижь ѡпановалъ праве вси црства на всходъ слнца, не живѧчи никогожь который ем8 сѧ спротивилъ (Хран., 372). *Параўн.* живляти.

**3.** *Карміць, падтрымліваць існаванне.* а ѩ не маю ее чимъ ховати и живити (КСД, 1211, 1518); Што колве придет з пашенъ з млыновъ и с присудов то мают собе опекалники на свои пожитки оборочати... и дети живити и одевати (Ст. 1529, 36); хочешь ли о том певнейшый быти ѩко чтити розумѣетьсѧ живити а выхованье давати, погледи што Апстлъ к Тімоѳею пишеть (Будны, 50); не маючы ни отъ кого жадное помочы и поживенья в старости летъ моихъ, яко отъ сына моего властного и отъ дочокъ моихъ рожоныхъ, которые мене в старости летъ моихъ отъ себе откинули... и жывити не хотели (АВК, XXIV, 382, 1581); живилъ ихъ и весь домъ ѡтца своего додаючи живности каждому (Біблія, 101); а тепер сын8 мо милы 8же тебе за 8мерлог маю, бо тебе не маю чим живити, длѩ тог тѩжкого голод8 (Бельск., 234б); Живность маемо з ѡвоц8 лѣсног и зѣлѧ, которое живит п8стынѧ, напаваючисѧ росою Нбсною (Варл., 154—154б); гсди длѩ тебе возму того ѡбтѩтого и ѡбѣц8ю его ѡсмотр8ват и жывит аж до смерти (Зб. 752, 541); Матка его вдова не маючи чим з детками живит, 8жо подрослого того то епифаниѩ послала до места жребца еще неѡбъежджаного и шаленого продават (Пралог, 669б); не бойтесѧ ижь живит б8д8 васъ и дѣтки ваши (Хран., 77б); стефан... призвавшы ѡднои доброде ки свое котораѧ его 8 вежи живила рече еи (Зб. 82, 197).

**4.** *Падтрымліваць (агонь), не даваць патухнуць.* огонь на олтар8 завжды б8дет горѣлъ, который б8де живилъ сщенникъ подкладаючи дрова рано на кождый день (Хран., 116—116б).

**5.** *Зажыўляць.* врачь масть прикладываеть. живить рану евжиноу (Чэцця, 161).

**Живитися, жывитися** *дзеясл., зв. ад* живити *ў* 3 *знач.* Тымъ млыномъ можетъ се городъ живити хлѣбомъ (АЮЗР, II, 110, 1480); ѡн же рече ей иди жъ продай олей и заплати долгъ

твой, остатком͛ пакъ олеѧ живсѧ ты с сынми своими (Скар. ЧЦ, 190б); подворники ихъ, которые суть ремесные и тымъ ремесломъ... ся обыходять, имъ живять (КПД, 514, 1568); которые татарове фурлюномъ се живѧть и ѡгородные речы справꙋють быдломъ торгꙋють (Ст. 1588, 492); люди нендзны, не маюͭ ничого толкѡ с кореніа жывіатсѧ (Царств., 80); нѣкгды колочами аплве толко живилис (Зб. 261, 146б); продала ѡле͛, заплатила длужникови а ѡстатком се живила з сыны (Бельск., 125); вшелѧкꙋю телеснꙋю оутѣхꙋ и покой до конца ѡткинꙋли, сырымъ корѣньемъ, и зѣл͛емъ, и ѡвоцомъ лѣснымъ, або тежъ сꙋхим, и барзо твердымъ хлѣбомъ живѧчисѧ (Варл., 102—102б); тое звѣра... травою з кореніа и веръшками дерева сіа живит (Зб. 259, 263б); поткалъ лꙋкъіана мниха зацного и чꙋйного котори͛ книги переписовалъ и тым се живилъ (Пралог, 670—670б); две лѣте жил на пꙋщы ꙋ велико͛ нꙋжи, зелъем сѧ толко живѧчи (Зб. 82, 171б); што писанемъ книг (бо писал велми ѡздобне) выробил, тым же сѧ живил (Там жа, 247); естъ Сакраментъ Тѣла и Крове, Гсда нш҃его Іс҃а Х҃а, под особами хлѣба и Вина, им͛ же дш҃а чл҃чскаѧ живитсѧ (Зб. вып., 18).

**Живица** *наз. Смала.* несꙋчи кореніа ресинꙋ (на полі: смолꙋ живицꙋ) (Бельск., 26б); Лѡтъ; ѡбвиненый, або звѧзаный або ѡткрытый, або живица дорогаа, котораа называетсѧ Стакти (Бяр., 294); трапилисѧ кꙋпцы Ізмаилтовѣ оною дорогою з͛ Галаадъ до Егvптꙋ идꙋчи. и велблюды ихъ несꙋчи коренье и ресинꙋ (на полі: смолꙋ живицꙋ) и статкꙋ [так!] и мастікꙋ (Хран., 60б); ресинꙋ едны выкладаюͭ живицꙋ (Выкл., 24).

**Живленый** *дзеепрым. ад* живити *ў* 1 *знач.* бц҃а... завжды ст҃ым дх҃ѡм живлена (Чэцця, 52—52б).

**Живляти** *дзеясл. Тое, што і* живити *ў* 2 *знач.* И гублѧше Давыдъ всю страну тꙋ и не живлѧше мужа ни жены (Скар. ПЦ, 58—58б).

**Живне, жывне** *прысл. Як мага хутчэй.* ты, Мартине Дохо ... его шаблею ... по плечамъ билъ, мордовалъ и подъ нимъ яко живне хотелъ паставилъ (АВК, I, 282, 1617); хтобы колвекъ з нихъ, будучы впорнымъ, сесь тестаментъ мой в чомъ же одно жывне нарушати, ино таковый кождый з нихъ о то все маеть со мною розсудитьсе на страшномъ суде (ИЮМ, XXI, 459,1626).

**Живность, жывность** *наз.* 1. *Харчаванне, правіянт.* найболѣй паномъ Полякомъ трудность великая, што ся дотычетъ купованья живности на себе и на кони и всякихъ иныхъ потребныхъ рѣчей, не маючи пѣнязей Литовскихъ (АЗР, II, 36, 1507); нищеты и богатества не давай мнѣ, толико дай живности моеѧ потрѣбу (Скар. ПС, 45б); Тогды мает тот з вижом гетманским где ехати або пойти або взяти потребу живности собе и на кони (Ст. 1529, 18); тыми пенязми накупити на замъки укъраинъные зъбожъя и въсякихъ живъностей (КПД, 11, 1538); Хлѣбом бо всѧкіе живности и вси того живота потребы называемъ (Будны, 192); жолнеры... на ѡбозы шлѧхэтские наеждчати и живность собе з них брати не маютъ (Ст. 1566, 25б); в тот час вси полѧ вколо повоевал, котораѧ рѣч была того прычыною, ижъ въ ѡбозе Атылевом велми трудно было ѡ жывность (Атыла, 221); живилъ ихъ и весь домъ ѡтца своего додаючи живности каждому (Біблія, 101); набери з собою вшеліакои живности, што ести мѣти бꙋдꙋт (Бельск., 8б); Поквапмысе там где достанем живности собѣ и коне̄м достатокъ (Алекс., 10б); Данъ местъ... собѣ и полку своему на 500 коней живность доставать (АЗР, IV, 381, 1610); кроль зась речетъ; хто сѧ смерти боит, дармо сѧ тот ѡ жывност стараеͭ (Варл., 28); взіал з собою на дорогꙋ жывности то ест воды вина ѡцтꙋ и масла древіаного (Зб. 752, 69); призвал голодъ на землю; и ѡтніал всю живност (Пс. XVII, 111); Пища: живность, страва, покарм͛, кормлѧ, потрава (Бяр., 104); ѡ третій хлѣбъ оупрашаем͛ Гсда Бг҃а, дочесный, то естъ ѡ вшелѧкꙋю живност͛, и ѡеждꙋ, бо тое все маемо з͛ млсрдіѧ Бж҃ого (Зб. вып., 99б). *Параўн.* живость *у* 1 *знач.*

2. *Усякая хатняя жывёла і птушка, прызначаная для ўжывання ў ежу.* А которую животину они пригонятъ зъ заграничья на продажу, абы еси съ тоѣ, живности, якъ съ коней, такъ и съ быдла, жадныхъ пѣнезей на нихъ брати не казалъ (АЗР, II, 180, 1527); Тогды брат старши осмотревшы напередъ живность домовую... мает тые малые долги выплатити (Ст. 1529, 35); перекупники сельскіе, которые только такимъ товаромъ, што живности належить, торгуютъ (АВК, III, 273, 1577); выкрали ... живности его, то есть вепра кормного битого зо всимъ тушу не розбираную (АВК, XVIII, 56, 1584); а згола ничого до живности належачого во изра͛лю не зоставліали, ани ѡвецъ ани волов ани ѡслов (Біблія, 122); Сщ҃еник... живность свою и спріат домовы͛ ꙋбогим роздавалъ (Пралог, 587).

3. *Жыццё.* ѡ пани славы ѡ пани веселіа. криница милости жила млсрдіа. ст҃ости живности (Пак. Хр., 16); Ни таистры на дорогу, ни двꙋ одежъ, ни ботовъ ни посоха годенъ бо ест роботникъ живности своее (Цяп., 12б); кгды теды минꙋло сем лѣтъ живности которыи были во египтѣ... по всем свѣте голод перемоглъ (Біблія, 93); ѡто при͛дꙋт сем лѣт живности великои по все͛ земли египетско͛ (Бельск., 29); сн҃ъ мо͛ по͛маны͛ и ꙋ зіатіа кролевского в Африце естъ: едина потѣха и надѣіа жывности мое͛ (Зб. 752, 498); Жизнь: Животъ, живност͛, выхованье, помешканье (Бяр., 44).

**Живо, жыво** *прысл.* 1. *Жвава, борзда, як мага хутчэй.* силенъ есі оуздоровіти. прироженыіа болѣзни, и раздрѣшити грѣховноую ночь. *и* живо вчинити дѣло (Чэцця, 160); братіа мои были, сынове матки моеи. живъ гсдъ, бысте ихъ были живо заховали, же бых вас не забилъ (Біблія, 125); Всіакож рицерство его ѡдно збили, дрꙋгое живо по͛мали (Стрыйк., 613); ажъ пострегшысе дей онъ въ томъ ледво зъ горъломъ до его милости

пана Яна Гарабурды, до маетности его милости Свислочы жыво утекъ (АВК, XVIII, 209, 1607); если се оу негѡ што оукралъ найдетъ, живо, любо вола, любо осла або овц8 во двое наобворотитъ (Хран., 99—99б).

2. *Жыўцом, у жывым стане.* мешкалэм под ним немало бачечи там доктора сэпрца и инших каноников и люде розных немало кторе тэж в тым поветрю живо зостали были (Еўл., 4); хто бы жоны свое матку понꙗл, живо з ними б8дет спален ѡгнем (Біблія, 170); Зараз се почала землꙗ трасти, аж се рост8пила. и пожерла живо Авирона и дажана (Бельск., 61б); Азали сѧ не боиш великихъ боговъ гнѣв8, абы тебе огнем з неба не спалили, и до пропасти живо не вкин8ли (Варл., 207); перве жыво ѡблуплены, потом ꙗзыки им скроз горло вытꙗгнено (Зб. 752, 21б); ѡбохъ з мѣста вывести и на дорозѣ салири ско ꙗму великую выкопат и живо загрести ихъ (Пралог, 531б); [зми] 8ста ѡтворилъ живо дв̃ц8 поглотити (Зб. 82, 310).

**Живодавный** *прым. Тое, што і* живодателный. которые, першый разъ, пред страстію крстною, и волною а живодавною см̃ртію, Ха сп̃сителѧ нашего, слав8 преѡбраженіѧ, и зар8 бжственное красоты его, на горѣ ѳаворской, ѡбачили (Карп., 19б).

**Живодателный** *прым. Які дае жыццё.* прош8 прето братіе, абы кождый з вас себѣ досвѣдчал, и тогды ѡт живодателнаго хлѣба, абы елъ, а ѡт животворꙗщеи крови, абы пил (Жыц. св. 140). *Парайн.* живодавный, живодатный.

**Живодатный** *прым. Тое, што і* живодателный. на оугасшій свѣтъ ѡчей, того, который просвѣщаетъ ѡчи слѣпыхъ: И целоуючи живодатные его ꙗзвы, котѡрыми сѧ оулѣчила, не оулѣчонаѧ, Адама всерѡднаго, рана (Карп., 46б).

**Живозакалаемый** *прым. Жыўцом заколаты.* офѣра живозакалаема хлѣбом и вином офѣровати сѧ не б8дет (Каз. Кір., 84б).

**Живоначальный, живоначалный, живоночальный, жывоначальный** *прым.* **1.** *Які змяшчае ў сабе пачатак жыцця.* георгій... реч. безначлне и живоначлне б̃е всег мира. положивыи врѣмѣна и лѣта (Чэцця, 83); Похвала ст̃го и живоначалнаго крста выписываетсѧ (Скар. ПБ, 20б). ◇ Ж и в о н а ч а л ь н а я т р о и ц а — *трохіпастаснае бажаство (адзіны бог, існы ў трох асобах — бацькі, сына і святога духа), якое па прадстаўленню хрысціянскай рэлігіі змяшчае ў сабе прычыну і пачатак жыцця.* Во имя святыя живоначалныя и нероздѣлимыя Тройца, аминь (АЗР, II, 33, 1507); Во имя Светое Живоначальныя неразделимое Троицы Отца и Сына и Светого Духа на вѣчную паметь (АВК, XX, 248, 1617); Прето вѣр8й в ѡтца и Сн̃а и ст̃го Дх̃а, в ст̃8ю, мовлю, и живоначалн8ю Троц8, котораѧ се в Трехъ Персонахъ, и в ѡдномъ Бозствѣ славитъ (Варл., 162б); Во имя Пресвятые и живоначалные, единосущное и неразделимое Троицы, Отца и Сына и Святого Духа, ку



вечной памяти, стансе (ИЮМ, XIV, 339, 1736); Ж и в ѡ н а ч а л ь н а я т р о и ц а — *у складзе назвы царквы,* вѣ имѧ живоначалныꙗ троца се азъ смиреныи семиѡнъ архіепспъ полѡтьцкыи коупилъ есми село на тоуловѣ (Гр. Сем.); колѣна приклонѧемъ чстымъ срдцемъ. покл[а]нѧючи бо сѧ ст̃ии живоначалнѣи троици. должни есмо и повинни прибѣгати часто (Чэцця, 218); продкове наши, съ давныхъ часовъ манастыръ святые живоначальные Тройцы, при мѣстѣ Слуцкомъ, на вѣчные часы надати и уфундовати рачили (АЗР, III, 272, 1582); не могучи такъ борзо мѣти спосѳбу на забудованье ихъ вложилъ на монастыръ Виленскій Святое живоначальное Троицы (АВК, XI, 80, 1611); Кн̃зь Дмитриі приимать бл̃гословение от свт̃го Сергия в монастырѣ живоначальныя Троицы (Мам., 174); ничого по... канонахъ, которые вси ясне вызнаваютъ. ижъ светые Божые... предстоятъ Светей жывоначальной Тройцы, и молятся за нами (Гарм., 182); то есть панское, купецкое, роское для даванья зъ нихъ пожитковъ приходячихъ, до монастыра... светое живоночальное Троицы... зъ чиненьемъ... фундовати рачилъ (АВК, IX, 170, 1635); бл̃гословитисꙗ ... храм8 8 вилни живоначалное Троци (Дыяр., 153б); 8важ, ꙗко была на свое столицы блиско маестату пресветое и жывоначалное тро цы на правицы сн̃а своего посажена (Зб. 255, 358б—359).

**Живоносный, жывоносный** *прым. Жыватворны, які прыносіць жыццё.* Видѧчи, бовѣмъ, источники, найдорожшое крови, з живоносныхъ его ребръ, ꙗко з Едема рѣки, гойнѣ а ѡбфитѣ плын8чые (Карп., 47б); Роспространѣмѡ прето срдцъ наших борозны, а пріймѣмѡ до нихъ живоносным и збавенным вѡды писма ст̃го (Каліст, II, 24б—25); нѣмашъ ... власного дерева, на котором жывоносное тѣло гсдне было роспꙗто (Зб. 752, 414); немаш ... власног того дерева на которомъ жывоносное тѣло гсдне было роспꙗто (Зб. 82, 26б).

**Живоночальный** *гл.* живоначальный

**Живописецъ** *наз. Жывапісец.* Живописъ, атель: Малѧръ, живописецъ (Бяр., 43).

**Живость** *наз. Тое, што і* живность *у* 1 *знач.* Трафилсꙗ великиі голод в риме хотѣл сенатъ абы посполиты люд лежал на границах, а з неприꙗтелских краин живости собѣ доставал (Бельск., 153б); штоколвек вам б8де потреба буд пн̃зе буд живости, так вам ꙗко и конем, всег досыт б8дете мѣти (Стрыйк., 623б).

**Животадавецъ** *наз. Той, хто дае, даруе жыццё.* Приближилъ сѧ до брамы мѣста Наина Хс Бгъ нашъ дверъ живота и несмертелности, и плачъ животадавецъ оут8лилъ (Каліст, II, 117).

**Животворный** *прым. Тое, што і* жывотворящий. ꙗкъ Манн8 вѣчныхъ роскошій ѣсти, и вод8 з каменѧ животворногѡ пити б8д8 (Мак., 226).

**Животворящий, животворящый** *прым.//перан. Які стварае*

*ўсё жывое, можа ажывіць, вылечыць.* ты бы, братъ нашъ, потомужъ успомянулъ на свою грамоту докончалную, какъ еси намъ записался и на чомъ еси намъ животворящый крестъ цѣловалъ (АЗР, I, 203, 1500); онъ же глаголѣть ѡ свѧтомъ и животворящемъ кресте (Скар. ПП, 9б); крест з самог животворꙗщог дерева з҄ шии ... знꙗвши взложил на золотꙋю мисꙋ (Стрыйк., 472); самь кн҃зь великиі, вынявши зь запазухи свой кресть, в котором была часть животворящого древа (Мам., 184); в Пресветой и Животворящой Тройцы нѣтъ старшого, ани меньшого (Гарм., 177); освѧщаетсѧ причащеніемъ чстного тѣла и животворѧщей крови Г҃а нашего І҃с Х҃а (Каліст, I, 17—17б); в часъ хоробы Пречстыхъ и животворѧщихъ тѣла и крове Хв҃ы таинъ причащеніе (Сматр., 47—48); которого принѧла, новꙋю пѣснь поетъ Бг҃ꙋ, ... и даетъ хвалꙋ Хв҃и животворѧщемꙋ (Мак., 371—372); виждъ ѡрꙋжие кр҃ть честны҄ и терновы҄ венец копие пробождшее животворꙗщаꙗ ребра (Зб. 752, 83); на празникъ воздвыженіꙗ чстнаг и животворꙗщаго крста гсдніꙗ ведлуг звычаю хрстиꙗнского и ст҃ыхъ ꙋфалы крстъ ст҃ыи ѡт архиереꙗ воздвизаетсꙗ (Зб. 82, 310). *Парайн.* животворный.

**Животдавный** *прым. Тое, што і* животдателный. была... и самой животдавной мꙋки и смерти его правдивою оучастницею (Каліст, II, 211).

**Животдателный** *прым. Які дае жыццё.* длѧ честной, Ст҃ой и животдателной крови твоей, которꙋю длѧ живота и длѧ збавенѧ нашего вылѧлъ еси (Каліст, II, 312). *Парайн.* животдавный.

**Животекучий** *дзеепрым. Тое, што і* животочный. Скоштꙋймо прето братіе: скоштꙋймо, и дознаймо: обачмо ꙗк естъ добръ Г҃дъ, доброти и несмертелности невычерпаное море: вода солодкаѧ и животекꙋчаѧ, розлоистаѧ ,и з҄ берегѡвъ выливаючаѧ (Каліст, I, 165б—166).

**Животина, жывотина** *наз. Хатняя жывёла.* ачь хто комꙋ потравить жіто жівотіною а на чіем щкоде бꙋдеть занѧто оуставлѧемь платіть чіꙗ жівотіна (Вісл., 25); домъ весь розграбили и животину и жито, и пшеницу (КЗ, 470, 1448); принесли вси с҃нове израилевы дары своꙗ къ б҃оу. хто што имѣелъ ѡт овощовъ. и ѡт животины (Чэцця, 14); люди ... хоромы свои затворѧют до вонъ не выходѧт ани теж котореи животине выити препоустѧт. иже коли были се не затворили. зь его безмерного а спросного прешкарѧдного. смородоу были бы побити. а змерли бы (Валх., 86б); взялъ въ насъ во всей волости деветнадцатеро коней, а рогатое животины пятьдесять безъ двꙋ, не ведаемъ — за што (КСД, 62, 1510); ѡнъ вырꙋчылъ ꙋ мене девꙗтеро животины (КВЗС, 3, 1533); Карпъ Артюховичъ... послалъ есми сына своего Гаросима до постуха моего, абы животину мою пригналъ до моего дому (АВК, XXI, 61, 1555); по нем снидꙋть молниꙗ громы и поплавить житьѧ и погубить люди и животиноу (Арыст., 147); ест у мене у дому моемъ корова... которую поймал на овсе и з ыншою жывотиною (АВК, XXXIX, 391, 1579); украли у дворе пана Курошовомъ ... тыежъ подданые ... жывотины дворное пана Курошовы, две коровы и четверо коз (АВК, XXXVI, 233, 1582).

**Животинный** *прым. ад* животина. конюшые брали съ конского и зъ животинного стада зъ мѣстского куницу, по двадцати грошей на лѣто (АЗР, I, 362, 1505); камен бадзагир ... ѡбретаетсѧ во желчи веретенниць великих и скреблют его нитю шолковою. ѡнже белъ и мѧкок тогды и помогаеть ѡт ꙗду животинного и цвѣтного. и каменного (Арыст., 237).

**Животищъ** *прым. Жыццёвы.* Зѡіль: мр: т҃. Животен, жизнен, Животищъ (Бяр., 275).

**Животно** *наз. Тое, што і* животное. Питала еси млекомъ, ѡтверзающаго роукꙋ свою, и насыщающаго всѧко животно благоволеніѧ (Карп; 36б); Онагръ, Дикій оселъ, животно подобное лоси (Бяр., 300); дванадцат мѣсꙗце҄ человѣческим ѡбразомъ животно и непереступно намаліовано златомъ (Алекс. 1697, 74).

**Животное** *наз. Жывёла.* пьеть воистинѧ животное (Чэцця, 211б); Каждое животное милуеть собѣ подобное, тако и кажъный человѣк҄ ближнего своего (Скар. IC, 23); Вышеж сих седми поꙗсов ес ѡсмое нб҃о на нем же в҃і задеи. сиреч животных (Неба, 61); Арістотел ... ѡ животных пишет (Зіз., 47); наполнилас землѧ створенѧ твоего, се море великое и просторое, и в том гмызы которым числа нет, животное малое з великими и через них люди преходѧт (Пс. XVII, 104); ѡ створеню скотовъ звѣровъ и инших животных в҄ д҃нь шестый (Хран., 4); *Парайн.* животно.

**Животный, жывотный** *прым.* **1.** *Жывёльны.* По стежце животной не ходить, блудны сꙋть стопы сѧ и непостижимы (Скар. ПС, 11); всѧко неведомое ѡт цвѣтовъ. или мѧс животных. а бꙋдеть ч҃лкѧ сладокъ. и добро запахом се ес емоу ества пригожаѧ (Арыст., 204); шаты ... в которых се за живота сам на болше҄ кохал, шаблю, волочню, сага҄дак з лꙋком и соколов и хротов пара. конꙗ животног, з седлом (Стрыйк., 539б); ꙋчинил его ꙗко бы на ꙗкого бг҃а земного, и пана всемꙋ створеню. и был праве в мꙋзских а дорослых лѣтах иншого бо вѣм створенꙗ животног. за едно дꙋши и тѣла з земли вышли, разом теж и гинут. А чловекꙋ перве҄ создал бг҃ъ тѣло, а потом дш҃ꙋ надхнул (Бельск., 3).

**2.** *Які адносіцца да жыцця, жыццёвых праяўленняў, пачынанняў.* б҃ъ ... целебныꙗ потоки животныѧ ѡт них источилъ (Чэцця, 69); плодъ возмемъ ѡт дрѣва животнаго (Там жа, 25б); той создалъ и вдунулъ в него духа животнаго (Скар. ПБ, 23); законъ мдрого жерело животное ѡтстꙋпит ѡт собла-женіа смр҃тного (Зб. 262, 99б); дворецъ нашъ отъчызны... з ласки своее дали служебнику своему... до жывотъного мешканя

6. *Распасцерціся (у прасторы).* море тогды берегов не забрало албо не залило. занюж то море николи не прибываеть (Валх., 86).

**Забратися** *дзеясл.* 1. *Сабрацца, падрыхтавацца (у дарогу).* Палемонъ которыи же цару Нерону был кревныи забралсѧ зъ жоною и з дѣтми своими и с поддаными и с скарбы своими ...и пошли (Рач., 296); забравсѧ з ... поддаными и зо всѣми скарбы ... также з жонами и з детми, взꙗвши з собою ѡдног ѡстронома пошли в҅ ѡкрꙋтах морем (Стрыйк., 513б); наримонт дошедши лѣт до҅зрѣлых на ѡны҅ свѣтъ сꙗ забрал (Стрыйк., 530б); зостала жена осиротѣлаѧ без двохъ сн҃овъ и без҇ мꙋжа и забраласѧ абы шла до ѻ҃чизны з҇ обѣма невѣстками своими (Хран., 193).

2. *Сысціся ў адно месца.* нимъ се дей забрали подданые, тогды се дей склонило ку вечору, ижъ того дня копа не заседала (АВК, XVIII, 123, 1594); Іѡананъ сн҃ъ каріевъ ѡтгромилъ ихъ. а забравши се оныи остатки Іꙋдеѡвъ по забитью годоліѧ ѡдошли до егvптꙋ (Хран., 355б).

3. *Апынуцца дзе-н.* мешкала там сем лѣтъ ... а потом забраласѧ до Рыма и в Рыме мешкаючи Богу служыла пилне (Рач., 301); внꙋтрнꙋю валкꙋ зачал, замок ꙋтꙗнꙋ, где был сꙗ довмонт з жоною забралъ, ѡблеглъ (Стрыйк., 530б); собрал во҅ско на ꙗтвꙗги поганы, которие были шлꙗхом татарским до полщи се забрали (Хр. польск., 10).

**Забраханье** *наз. Брэх.* Яцута Гринцевичъ ... в ночы, на забраханье сабакъ вышолъ есми въ дому моемъ з ызбы до хлева (АВК, XXI, 358, 1558).

**Забрехати** *дзеясл. Забрахаць.* не забрешеть ни песъ на тебе, понеже сии речи ꙗвлены суть мнѣ опатрениемъ божиимъ (Скар. КЮ, 18б).

**Забримѣти** *дзеясл. Загучаць моцна; зашумець.* если должъшии и перериваныи трꙋбы забримꙗт, рꙋшат ѡбозы першии (Біблія, 184); ꙗ приведу все злое на ерꙋсалим и на июдѣи; иж хто колвек ꙋслышит забримит в ꙋшъю его (Бельск., 133); по мѣсту и всихъ ꙋлицах забримит сроги҅ вырок ... на хрестиꙗны (Зб. 752, 216б); коли забримитъ голосъ трꙋбы проволоком крикнетъ весь людъ ѡкрикомъ великимъ, и оупадꙋтъ з кгрꙋнтꙋ мꙋры мѣстцкіи (Хран., 162б).

**Забрнꙋти** *дзеясл. Загразнуць, завязнуць.* Гды сѧ многихъ грѣховъ допꙋстили, а не каѧлисѧ в҅ такіи грѣхи забрнꙋли, же и землѧ всѧ дощаткꙋ згинꙋла (Мак., 43—44).

**Заброненье** *наз. Тое, што і* забороненье *ў* 1 *знач.* ходили панове маистратовые до монастыра братского до Черницъ, стороны розмереня кгрунту Черницкого и о забронене ксендзу Ждановичу отъ того жъ кгрунта (ИЮМ, VII, 98—99, 1690).

**Забронити** *дзеясл. Тое, што і* заборонити *ў* 1 *знач.* ходили панове маистратовые до замку до его млсти пана економа ... жебы забронилъ будовать жыдомъ (ИЮМ, VI, 112, 1689).

**Забронно** *прысл. Тое, што і* заборонно. видит тꙋт намъ на забронно дрꙋгого ангела презвискомъ гавриила (Зб. 259, 651).

**Забруденый** *дзеепрым. Запэцканы, забруджаны.* до своего палацꙋ впроважал, ноги ихъ оумываючи, и забрꙋденые головы ѡчищаючи, и вшелѧкꙋю любов имъ ѡсвѣдчаючи (Варл., 306).

**Забрудитися** *дзеясл. Забрудзіцца.* ежели бы Литонъ забрꙋдивсѧ, вымыти треба, але вымывши того об҃щати не треба (Зб. вып., 30—30б).

**Забрукатися** *дзеясл. Запэцкацца, забрудзіцца.* ѡдѣн҅ѧ ихъ Гды сѧ забрꙋкают҅ не ѡмывают҅сѧ водою, але ѡгнемъ, и ставают҅сѧ чистѣйшіми и свѣтлѣйшіми (Мак., 122).

**Забруковати** *дзеясл. Забрукаваць.* тые ямы казали есмо попу добре заправити и забруковати (АВК, XVII, 248, 1540).

**Забрысти** *дзеясл. Забрысці, зайсці далёка.* тые новотные оторванцы слꙋшнѣ бы сѧ б҃га боѧти и людей встыдати мѣли, кгдыж нижъ исидоръ былъ ве флоренціи зашолъ, далеко глꙋбей забрыли (Апакр., 154—154б).

**Забудованый** *дзеепрым.* 1. *Ад* забудовати *ў* 1. *знач.* млынъ для пожитку замкового и потребъ мѣстскихъ завжды можетъ быти забудованъ на рѣчцѣ Дубровенцѣ (АЗР, III, 112, 1561); при погоренью мѣста нашого Виленского и церкви Божіе погорѣли, которые хотѣли мѣть, абы забудованы были (АВК, IX, 170, 1635).

2. *Заняты пабудовамі (пра месца).* почавшы дей отъ того месца ажъ до самое реки Буга увесь валъ есть запсованъ и домами жидовъскими забудованъ (АВК, XXVIII, 20, 1580).

**Забудованье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* забудовати *ў* 1 *знач.* тое забудованье замку теперешнего имъ самымъ и потомкомъ ихъ впередъ николи въ повинность и въ пошлину ити не маетъ (АЗР, III, 199, 1576).

2. *Пабудова.* за садибами двома, и моргами шестома на городъ и забудованье на тыхъ же моргахъ церковных мають быти со служители до церкве належачіи (АВК, II, 2, 1431).

**Забудовати** *дзеясл.* 1. *Пабудаваць.* тотъ домъ ... волно будетъ пану Жыкгимонту по своей воли будовати и забудовавшы продати (АВК, XX, 12, 1559); мѣста и замки побꙋроные ѡт царꙗ батыꙗ... зновꙋ радивил выставил и забꙋдовал (Стрыйк., 517б); Жыкгимонътъ Авъгустъ змоцняючы границы великого князъства Литовъского, велелъ замокъ Суражъскій забудовать а место пры немъ осадити (ИЮМ, II, 243, 1646).

2. *Заняць пабудовай участак зямлі.* потом вжо кожды из них свою дѣлницу муром забудуеть (СДГВ, 19, 1505); тым

часом крок границы и тѣсным вхоженꙗ и выхоженꙗ деревом забȣдовал (Бельск., 361).

**Забудоватися** *дзеясл.* **1.** *зв. ад* забудовати *ў* 1 *знач.* при томъ замку нашомъ мѣстечко забудовати и осадити се могло (АЗР, III, 277, 1583).

**2.** *Аказаца занятым пабудовамі (пра месца).* Але и тамтои стороны добре сꙗ забȣдовали, Москва и так великие дѣла засадила (Стрыйк., 59б).

**Забурение** *гл.* забуренье

**Забуреный** *прым. Бурлівы, бурны.* мы оуставѣчне днемъ и ночю плаваемо, вˇ непогоды, вˇ вихри, и по забȣреномъ морю (Каліст, I, 52—52б).

**Забуренье, забурение** *наз.* **1.** *Хваляванне, бура, навальніца.* не барзѣй над водные на сȣши забȣренѧ терпимо (Кін., 51б); Влъненіе: влъна, забȣренье водное, гды бываетъ, фалѧ на водѣ навалность (Бяр., 21); ѡбȣреваніе: Забȣренье, повѣтрѧ, непогода (Там жа, 194). //*перан.* если бы сѧ постереглъ в томˇ забȣреніи же зле чынитъ, а чынилъ бы, тогды вымовки не маеть ѡ грѣсе своем (Навука, 68).

**2.** *Напад.* не без малого забȣренꙗ и ображенѧ пришли. же слово бж҃е з латинских и иных писмь, своим теж языком прирожоным перекладати и читати почали (Цяп. Прадм., 269б); О што и вашу милость нашого милостивого пана упевняючи, просимъ, въ часъ таковоrо забуренія и навалностей на церковъ Божію (АЗР, IV, 124, 1595); таковые зайстѧ и забȣренѧ на ѡбѣ сторонѣ оуморили. и оуморѧютъ южъ заразъ вѣчными часы (Апакр., 29).

**3.** *Уціск.* вселенскіе собѡры подстилаютъ самомȣ римскомȣ папѣжови, а не толи есть цр҃кве второе забȣренˇе и зневолене (Апакр., 187б).

**4.** *Смута, мятеж.* Дрȣгог дн҃ꙗ сталосе забȣрене посполитог людȣ против Аароновi (Бельск., 61б).

**5.** *Сварка, нязгода.* тутъ для того забуренья межи духовными пріѣхалъ (АЗР, IV, 163, 1597).

**Забываный** *дзеепрым. ад* забывати *ў* 2 *знач.* не годитсꙗ наконец и того запомнѣти ꙗко ест церемоніꙗ церковнаꙗ блгочестиве и потребне намъ подана, котораꙗ бывает ѿ многих забывана (Зб. 752, 530б).

**Забыванье** *наз. Забыццё.* всякие речы писмом не утвержоные с памети людских сплывают и въ забыване приходит (АВК, XXXII, 377, 1596).

**Забывати** *дзеясл.* **1.** *Выпускаць з памяці, не захоўваць у памяці.* зазнѧꙗ забываимо а на пережьнѧꙗ готовимсѧ (Чэцця, 168); Почто вовѣки забываеши насˢ (Скар. ПЕ, 11б); не мѣл на ѡнȣю признакȣ дерева гледꙗчи. забыват так ꙗко тепер цареве, або кролеве знаки або ѡбразы свои, подданым своим длꙗ захованꙗ грозы и выроков своих зоставȣют (Бельск., 3б);



прешлых працъ забываючи, а до пришлых сѧ накладаючи: же такъ злегка и помалȣ идȣчи досконалости достȣпимо (Каліст, I, 38б); не забываˇ всѣхъ добродѣˇствъ его (Пс. XVII, 106—106б); ѡ нашихъ недостаткахъˇ не забывай (Бяр. прадм.).

**2.** *Пагарджаць, пакідаць без увагі.* ихъ оупоминал просил и приказавал абы того рѧду кр҃щніа николи не забывали (Валх., 65); сн҃ȣ мои законоу моего не забываи (Зб. 262, 94); врадники забывають посполитѣ позваньѧ або повинностей своих (Будны, 57б); сроднаго присвоеніѧ (кгдыжес естˢ, по ласце, матка наша) не забываючы: надˢ блȣдными и марнотравными сынами, оумилосердисѧ (Карп., 48б); над все чын иноческиˇ милуˢте ... молитвъ и наȣки не забываˢте (Зб. 752, 503).

**Забывающий** *дзеепрым.* **1.** *Ад* забывати *ў* 2 *знач.* возратѧтсѧ грѣшници во адъ. вси ꙗзыциˇ забывающии ба҃. (Чэцця, 246б).

**2.** *У знач. наз. Той, хто пагарджае, не прымае пад увагу.* пȣти всехъ забывающих бога, и ȣпование льстиваго погыбнеть (Скар. ІК, 13); ѡбычаи всих забывающих ба҃ и надѣѧ похлѣбцова погинетˢ (Зб. 262, 15б).

**Забылый** *дзеепрым. Забыты.* он с позосталых препометаных, не описаных на инвентару грошей у него забылых мужних он на тую потребу мою давал (АВК, XXXIX, 454, 1579).

**Забыти** *дзеясл.* **1.** *Забыць, не захаваць у памяці.* чи забыла еси. но мы не забыли.. оускоре написахомъ ваша дѣла (Чэцця, 356); кнѧз пакі ꙗноуш забыл добра и приѧзни цˢтѧ своего. и тещи и шȣрьи своеи (Віл., 412); ꙗк трава оувѧноуло срдце мое бо забыл есми зъести хлеба моег (Пс. XVI, 100б); ꙗкгаˢло присеги своеи забыл (Патр. К, 46); если бы хто с прагненѧ великого пополночы троха воды напилсѧ, тогды не может сѧ причащати, хиба бы забыл, же пополночы пилъ (Навука, 46); хто в сердцȣ имꙗ хв҃о мѣт бȣде того ѡн в царствіи своем не забȣде (Дыяр., 179); Зараз греховъ твоих забȣдешъ, хот бȣдȣт чирвоные, ꙗко шарлатъ (Зб. 259, 349).

**2.** *Занядбаць, пакінуць без увагі.* ѡ престаꙗ дв҃о мт҃и хсва. не забоуди рода чл҃вчаа (Чэцця, 262б); будите жъ пилни и блюдитесѧ да не забудете гсда бога вашего (Скар. ДЗ, 21); похочешъ ли, забывши Бога и пріязни своее. моцъю своею того, яко къ намъ пишетъ, на нас доводити (КПД, 14, 1538); з нимъ делечи межи собою, забыли товару сполного неделеного за две копе гр҃ши (АВК, XXXIX, 72, 1578); мешкаетъ разбойникъ бл҃горазȣмный, который дочесного живота и здоровѧ забывши, абы толˇко вˇ ономъ пришломˇ животѣ ... тотъ цар превѣчный, на него вспомнѣлˇ, просит, и жадаетˇ (Карп., 8б); Реку до Бг҃а ѡборонца моˇ еси длꙗ чого мене еси забыл (Пс. XVII, 18б).

**3.** *Пакінуць, не захапіць з сабою.* и тыи пеленки оу которе іссъ тамо оувиван и сено и сорочкоу панны м҃ріи которую была оу ѧслех забывши полишила (Валх., 70); забыли ȣченики его

вз҃ѧти хлебовъ, и окроме одного хлеба, не мели (большъ) з` собою в` лодьи (Цяп., 54); нера́чен бѣжить вонъ забывши и хлѣба (Лям., 17).

**4.** *Абысці, пазбавіць, пазбавіцца.* нас бог не забудет своею ласкою и надею сѧ иж намъ даст бог почстенье и свою помоч (Трыст., 20); вода, огнемъ знѧтаѧ, забывши, к8 земли склонное, нат8ры своее, к` горѣ выскак8етъ (Карп., 21б).

**Забытие I** *гл.* забытье

**Забытися** *дзеясл.* **1.** *Забыць, не захаваць у памяці.* жены ... никомоу не рекли какъ бы забылисѧ. какъ анг҃ли видѣли (Чэцця, 328); видѣлъ есми неоучтивых закопаных и прид8ть из мѣста ст҃го поид8ть и заб8д8тсѧ въ городе иже такъ оучинили (Зб. 262, 90б).

**2.** *Забыцца, згубіць над сабой кантроль.* Человекъ естъ лиже забывшисѧ согрешить ... да принесет` за грехъ свои агнеца (Скар. КЛ, 12б); жена ег дѣтꙗ свое на р8ках держачы и забывшысꙗ задремала (Зб. 81, 186); жена его ... забывъшысѧ задремала, и дѣтꙗ в рек8 ... з р8къ своихъ 8п8стила (Зб. 82, 233).

**3.** *Памыліцца.* Говорнар шолъ и принесъ кубокъ з оное флѧшы милостного питꙗ, забывшысѧ, бо в коморе было много всѧких судов (Трыст., 67).

**4.** *Страціць прытомнасць (ад страху, болю, адчаю).* шедше такою боꙗзнію и страхом злѧклисе были и забылисѧ (Валх., 54б); Трыщан сталъ ꙗкъ забылъ сѧ и не вѣдал што ѡтказати (Трыст., 47); кат стоꙗл ꙗко в зафиценю. А забывшисꙗ потом пришедши жо себе спытал ст҃енника где меч есть (Зб. 752, 162б).

**5.** *Знікнуць з памяці, забыцца.* нѣтъ памѧти м8дром8 з гл8пым навѣкы заньж въ приходѧчіи дн҃и все заб8детсѧ але как` же оумрет мдрыи з гл8пым (Зб. 262, 87).

**Забытность** *наз.* *Страта памяці аб кім-н., чым-н.* Въ забытности коренья пану послу Литовъскому, пишечы реестръ за прыязъдомъ его до Могилева съ Полщы (ИЮМ, I, 119, 1680). ◇ Приходити в забытность — *забывацца, станавіцца забытым.* безъ письма в забытность приходятъ, альбо с паметого людского заразомъ с того света сходятъ (АВК, XXII, 402, 1570); сплынути в забытность — *забыцца, быць забытым.* Всякіе рѣчи цнотливых справ ... часом с памят вышли бы и в забытность останочную сплынули бы, вѣчностью письма оу пришлыи лѣта ку памяти не приведены (Арх. ЮЗР, VIII—4, 320, 1514).

**Забытный** *прым.* *Прызначаны для таго, каб забыць.* Дружненна борздо змыслила и чашу забытного питьѧ дала ему (Бава, 153).



**Забытость** *наз.* ◆ Приходити въ забытость — *забывацца, станавіцца забытым.* всякія речи ... безъ писма въ забытость приходятъ (АСД, IX, 66, 1570).

**Забытый** *прым.* **1.** *Які не захаваўся ў памяці.* правда твоа в земли забытои (Пс. XVI, 89б); мел онъ у себе забытые грошы небожчыка мужа моего (АВК, XXXIX, 467, 1579); познани буд8т в темностꙗх чуда твои, а справедливост твою в земли забыто` (Пс. XVII, 85—85б); Забвенъ: Забыт`, забытыи (Бяр., 47).

**2.** *Занядбаны.* забыта боуд правица моа, нехай прилне и ꙗзык мои к деснам моим (Пс. XVI, 133—133б); южъ ꙗкъ бого8бійцы, ѡт Бг҃а ѡп8щены с8тъ и забыты тоежъ чинѧт` (Каліст, II, 163).

**3.** *У знач. наз. Той, каго занядбалі, кім пагарджалі.* слышимо же ихъ ѡвчатом` приподоблѧет, абысмо не роз8мѣли, же хрстіанѡмъ ꙗкобы забытымъ и безроз8мнымъ, ленивымъ и недбалым`всюды быти пристоѧло (Каліст, II, 2); Стараетъсѧ абовѣмъ выст8покъ, жебы забытымъ и оутаеным былъ в` мыслѧхъ чл҃чихъ (Мак., 140).

**Забытье, забытие** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* забыти *ў 1 знач.* Абы блудъ забытья сталыхъ рѣчей, подъ часомъ оборочаючихся, покрытъ не былъ шкодою, найдено естъ, ижъ учинки людскіи ... потверженымъ свѣдетствомъ листовъ ... даны ко истости вызнанья (АЗР, I, 195, 1499); даровъ которыи забытьемъ писарьским соут ѡпоущены (Валх., 62б); Забвеніе — забыте (Зіз., 35); Забвеніе: Забытье (Бяр., 47). ◇ Приходити въ забытье — *забывацца, станавіцца забытым.* вси справы съ часомъ съ памяти людскоѣ сплываютъ и въ забытье приходятъ (АЗР, III, 118, 1563); вси справы естлибы писмомъ объяснены не были, тогды таковые справы часомъ трываютъ и въ забыте людское прыходятъ (ИЮМ, XXI, 438, 1625). *Парайн.* забытьеся.

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* забыти *ў 2 знач.* роскошами свѣта и хм8рами невѣдомости, слѣпоты, и забытѧ, оуловлѧючи срдца людскіи (Мак., 51); 8мыслил злого сатаны дѣло пришол в забытие бг҃а и помочы его ѡтчаꙗвсꙗ (Зб. 752, 25б).

**3.** *Страта прытомнасці, кантролю над сабой.* Чи завжды заходитъ чл҃вкъ в`такое забытье (Мак., 73); лихо ес из мышок кров пѫстить родитсѧ забытие, а кровъ ѡт тых местъ оучинить немоць в р8це (Неба, 64б); дарый в забытіи 8ма своег 8пал, и не при8мѣлъ що собѣ чинити (Алекс. 1697, 49).

**Забытьеся** *наз.* *Тое, што і забытье ў 1 знач.* Из8мѣніе: забытесѧ, зад8мѣваньесѧ, зжахненьесѧ (Бяр., 56).

**Завада** *наз.* **1.** *Перашкода.* што бы Полочяномъ доброволно ехати к Ризѣ, такъ же Рижяномъ к Полоцку, безъ всякоя завады (РЛА, 130, 1407); нетъ никакое завады албо зачепки оу тоую зм҃лю воити. албо выити. толко темность

да хмоура мъгла (Валх., 80б); плоты дерева на будованье, и на дрова годного без завады проходити могли (Ст. 1588, 41); з' исторіи бачимы, иж таа с҃таа згода ꙗко частокроть замыкана была, такъ сѧ теж частокроть за неопрѧтненьемъ всѧких завад розрывала (Апакр., 14б); ѡдтꙋль без перешкоды и жаднои завады ѡдшедши, в' двадцати днѧх вернꙋлсѧ с҃тыи до своей кельи (Мак., 15б).

**2.** *Застава, перагародка.* державцы нашы кожды' в державе свое' мают досмотрэти ... абы проходы слушные без завад на рэках были заставованы (Ст. 1566, 16б); не будешъ злоречил глупому, ани перед слепым не будеш клал завады (Біблія, 169).

**3.** *Тое, што абцяжарвае, перашкаджае.* жадных завад и порожных спрꙗтов в' во'скꙋ своем не допꙋстил возит, на ѡстаток ани котлов, ани жадного начинꙗ кꙋхонног жаден его жолнѣр не мѣвал (Стрыйк., 442б).

**4.** *Шкода.* то мѣло пріити подобно не къ помочи, але къ большой завадѣ (АЗР, II, 345, 1538); пан Станислав Пуртик натегаючы собе на помоч декрет суду земского Вилкомирского, которы мне ни на которой заваде быти не можеть, домагает ся того (АВК, XXXII, 34, 1596); то, стороне на помочи, а мне на заваде, быти не можеть (ИЮМ, IX, 223, 1635); если завада ꙗкаѧ в' ѡбцованю бꙋдет закрыта. покажетсѧ на ѡдѣꙗню его макꙋла, грѣх абовѣм житіѧ чинит змазꙋ на сꙋкни (Зб. 107, 114б—115).

**Завадживати** *дзеясл. Шкодзіць.* очи слѣпыи и члонки гнилые здоровымъ завадживаютъ (АЗР, IV, 226, 1600—1605).

**Завадити** *дзеясл.* **1.** *Зашкодзіць.* боудет ли што едовитого а любо смертного пити не завадит имъ (Пак. Хр., 35б); Кто бы сѧ тако заховалъ не завадила бы ему жона (Будны, 35б); таковый выписъ князю Ахметю и Байшику ку чсти и шкоде ихъ завадить не може (АВК, XXI, 133, 1566—1567); томꙋ завадити не мают противные апостолскіе и иншіе котѡрые колвекъ становеньѧ (Апакр., 42); если принесеш мꙋрꙋ в лекарствѣ завадит горе' ниж поможет (Зб. 261, 92); то не завадит намнѣ' если их зкгвалчене вѣри през зрадꙋ бꙋде помщено (Стрыйк., 473б); видите сами що македонских конеи и марсилоскаꙗ рѣка ничого не завадила (Алекс., 1697, 46).

**2.** *Даткнуцца да чаго-н.* Га`дꙋки з правои стороны до них з рꙋчниц ꙋдарꙗт а езда по лѣве копиꙗми в них завадꙗт (Хр. польск., 23б); одинъ зъ нихъ хотечи на свещенника отца Іова бардышомъ тяти знагле за звоницу завадилъ и въ звонницу бардышъ вразилъ (ИЮМ, VIII, 443, 1633).

**Завадитися** *дзеясл.* **1.** *Зачапіцца за што-н.* если же неѡсторожне мѣстца оныи трꙋдныи минꙋти, забравши рꙋками и ногами ѡтвсюль сꙋкню жебы сѧ ѡ тернѧ и хворостъ не завадила, болотом' не поплюскала (Мак., 26—27).



**2.** *Сутыкнуцца, каб распачаць сварку, бойку.* которую фортъку, нетъ ведома хто зъ кимъ на улицы завадивъшисе, выбивши, до того дому моего розъные люди зъ галасомъ въпадали (ИЮМ, VIII, 523, 1636).

**Заважати** *дзеясл. Перашкаджаць.* вси мѣстечка, которые ему на дорозе были, частю длѧ ѡтпорности, частю жэ ему жывности боронено и тѣснот дорогъ ему заважала, з кгрунту вывернувшы, частю тэж некоторые в ласку принѧвшы тѧгнулъ з воиском до Констанцэи (Атыла, 183); таѧ трꙋдность передъ тым не помалꙋ до того заважала, же не кожды' статутъ могъ мети, длѧ трудного и долъгого переписованьѧ (Ст. 1588, прадм.); которому молчанье и поблажанье в҃м барзо хотѧ незначне заважаетъ (Апакр., 219б); Повреждаю: шкожꙋ, заважаю, зашкожꙋю (Бяр., 107).

**Заважитися** *дзеясл., зв. ад* заважати. ѧ зась слышꙋ ѡт тыхъ што з влохъ приежджаютъ, же и теперъ предсѧ таѧ сѧ симонѣѧ заважаетъ (Апакр., 174б).

**Заважаючий** *дзеепрым. У знач. наз. Той, хто перашкаджае.* доброволне офѣрованымъ вывешеньемъ и почтеньемъ ꙗкъ заважаючимъ до найвышшого нбсного гордѣли, иныи б҃гобойныи люде помнѧчи на онꙋю гснюю повѣсть, хто сѧ вывышаетъ, боудетъ пониженъ (Апакр., 199б—200).

**Заважие** *наз. Груз, цяжар.* нѣ будете носити в калитахъ вашихъ розныхъ заважиевъ ... тѧж'шихъ (Скар. ДЗ, 47б—48).

**Заважити** *дзеясл.* **1.** *Мець пэўную вагу.* Такъ много важит ꙗкъ ты сам заважиш: дай себе самогѡ, а бꙋдеш ег мѣти (Мак., 8б); купили ... заслонку железною до печи ратушной канцелярией, фунтъ по асмак. двадцать, заважило фунтовъ осмнадцать (ИЮМ, II, 151, 1684).

**2.** *Каштаваць (у цане), мець тую або іншую цану, грашовую вартасць.* чинено му из мꙋки из зіолокъ поливку, так ижъ едене и питие его ледве пꙗт скоицов золотников заважила (Зб. 81, 37); Статиръ: замыкает' в' собѣ с҃і оволѡв, то ест о҃ осмакѡв. оволь рахꙋючи по шелюгꙋ. заважит' талѧръ філіпокъ, статиръ, и сикл', полталера (Бяр., 312).

**Завалавяти** *дзеясл. Выклікаць, заклікаць.* въ суботу великоденную тыежъ студенты въ набоженствѣ ихъ русскомъ пренагабанье чинили, поповъ и слугъ церковныхъ шарпали, завалавяючи умысльне на зваду (АВК, VIII, 33, 1598).

**Завалеваный** *дзеепрым. Закіданы чым-н.* ꙋзрѣлъ колодезъ на полю ... а верхъ его великим каменем завалевано (Біблія, 64).

**Заваленый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* завалити *ў 1 знач.* гробъ каменем великим завалены' (Бельск., 381); пастꙋхи его камене на бꙋдоване зо ѡкна ꙗскини ѡное заваленое выбрали (Зб. 752, 98); ихъ великими каменми завалено (Зб. 81, 44б).

**2.** *Ад* завалити *ў 2 знач.* до того кгдали мешканья двери сенъные южъ завалены были (ИЮМ, VIII, 523, 1636).

3. *Разбураны, абвалены.* На матыки до розбиваня вежи заваленой, купили железа (ИЮМ, IX, 126, 1692).

**Завалити** *дзеясл.* 1. *Зрабіць завал і закідаць чым-н.* она ... розказавши тую дорогу великими колодами завалить, ровы по ней покопать (ИЮМ, XXII, 356, 1647); ѡни кандидȣ и павлинȣ на шыю в ꙗмы ѡные впхнули, и каменми и цеклами завалили (Зб. 752, 555). *Парайн.* заваляти.

2. *Зачыніць.* онъ вышедши зъ дому своего и заваливши прасло жердей, знову кони свои выгналъ на тую сѣножать (АВК, VI, 49, 1589); вшедши тамъ Іеремѧ нашолъ мѣстце печери. и намет и олтарь каженьѧ внеслъ тамъ и завалилъ двери (Хран., 355).

**Завалитися** *дзеясл.* 1. *Упасці, паваліцца.* песъ ратовалъ жону мою, а затымъ она втекши завалилася в сенехъ (АВК, XXII, 205, 1565—1566); Семенъ перевозникъ еще за часу пошолъ до гумна и тамъ, подъ осетю завалившысе спалъ (ИЮМ, VIII, 363, 1620).

2. *Разбурыцца, абрушыцца.* пивница каменная мурованая завалиласе (АВК, XIV, 273, 1583); поденщикомъ ... которые цеглу прыбирали, якъ вежа завалилася была, кождому на день по осм. осмнадцать (ИЮМ, V, 126, 1688).

**Завалный** *прым.* *Які знаходзіцца за валам.* мужыкомъ завалнымъ дали имъ кождому на день по ситницы (ИЮМ, XI, 100, 1697); Зъ слободки Луполовское завалное, погуменного, водлугъ порахованого реестру, отобрали цыншу за рокъ золотыхъ сорокъ два (ИЮМ, VIII, 20, 1691); ойцомъ кармалитомъ завалнымъ дали на мшу до святого Антонія, абы Господь Богъ объявилъ згубу (ИЮМ, VIII, 49, 1691).

**Завалъ** *наз.* *Завала, прыстасаванне для запірання дзвярэй.* у дверахъ у обоихъ завалы железные два и съ пробоями великими безъ замка (ИЮМ, VI, 144, 1689); Дойлидомъ двумъ, што у брамахъ круговыхъ завалы тесали и ворота поправляли, заплатили зол. одинъ (ИЮМ, XI, 120, 1697).

**Заваляньe** *наз.* *Дзеянне па дзеясл.* заваляти. Купили брусы тры на млынъ до заваляня дороги для варты, абы проезду не было (ИЮМ, XIII, 20, 1699).

**Заваляти** *дзеясл.* *Тое, што і* завалити *ў* 1 *знач.* Завалѧл` пути мое камением` и превратил` стези мое (Скар. ПЕ, 7б); ѡни ... кандирȣ и павълинȣ на шию в ꙗмы ѡные впъхнȣли и каменми и цеглами завалꙗли (Зб. 82, 408б).

**Заварти** *дзеясл.* 1. *Зачыніць.* ѡригенес на тот вѣршъ заварти книги з казанꙗ пошолъ (Выкл., 124б).

2. *Акружыць, асадзіць.* крол дȣнски` собравшисꙗ з великим людом заварлъ их на морȣ, где мȣсили ѡт нег шванковат (Стрыйк., 600).

3. *Заключыць дагавор, саюз, сяброўства.* мы в н҃длю вси разьехалисѧ заварши то и запечатовавшы и подписавшисе до того писмом албо ȣниверсалу его кр. мл. послалисмы (Барк., 151б); Вси створеньѧ под егѡ владзою, еднакъ не збȣдовал собѣ в` нихъ тронȣ а ни товаришства з` ними принѧлъ, але з` ч҃лвѣком` в` которомъ самомъ емȣ оуподобалосѧ: и заварши з` нимъ приѧзнь в` немъ ѡдпочинȣлъ (Мак., 355—356); отецъ Зеневичъ игуменъ кронскій ... тое имѣнье Стравеники ей милости пани Судиной Троцкой ... продалъ и листомъ своимъ интерцизийнымъ зъ ей милостью заварлъ (АВК, VIII, 120, 1657).

**Завартие** *наз.* *Варта.* войтъ зъ лавниками мѣста помененого ... маютъ, вшакожъ абы тымъ способнѣй потребы оного мѣста опатровать: ратушъ будовати, и въ улицахъ, на гостинцахъ завартіе починити (АВК, VIII, 42, 1580).

**Завартисе** *дзеясл.* *Размясціцца, зачыніцца.* заварли се были на замку з двема сынами, детми малыми п҃на виленского ꙗронима Ходкевича (Еўл., 42).

**Завартый** *дзеепрым.* 1. *Размешчаны.* квасное болото, што было здавна розно розмѣроно, теперь уже заварто въ одинъ огуломъ квадратъ (АВК, VI, 107, 1599).

2. *Заключаны (саюз, дагавор, шлюб).* на рочкох липцовых в небытности мэ` през ꙗроша, с҃на моего, заварта была ȣгода зъ бруханскими (Еўл., 48); якожъ и на томъ второмъ Константинополскомъ повшехномъ сѵнодѣ згодне ... естъ заварто, а под анаѳемою загрожено, абы ся жаден не важилъ до того артикулу вѣры ... ани придавати, ани уймовати (Пыт., 18); выш менованый пан Матвей Гуща ...тепер по завартым щасливого покою пактомъ, назвавшысе собе Павловичом Гущою... толко трох, а не чотырох сынов мел (ИЮМ, XXVI, 184—185, 1667); зарȣчины гинȣтъ, длѧ завартаго з` иною Особою Малженства (Зб. вып., 78б).

3. *Распачаты.* Мы судъ яко в справе прысегою того Ильи жыда завартой зволоки не допущаючы ... позовъ чытать и далей в право сторонамъ поступовать наказуемъ (АВК, XXVIII, 140, 1655). ◇ Листъ завартый *гл.* листъ.

**Завартье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* заварти *ў* 3 *знач.* ꙗко намовъ тыхъ ѡтправованьѧ, так` поготовȣ и конклюзіе [на полі — завартьѧ] ꙗкихъ в той мѣре чиненьѧ ономȣ і с подозреными товаришми его позволѧти не можемо (Апакр., 13); они при завартью справы роздѣлку и розобранью кгрунтовъ имѣнья нашого ... зе мною згодилисе (АВК, VI, 199, 1599); на приходъ преможного и добротливого Кролѧ, кȣ певномȣ и кгрȣнтовномȣ становеню и заварт`ю правдивого и вѣкȣистого примирѧ и покою, домъ або рачей палацъ пресличныи. всесилной правицы его мистерствомъ збȣдованыи (Каліст, II, 206б). въ каменицы его милости пана Еноха Коленды ... гдѣ се завартье тое справы дѣело ... одъ поранку ажъ до вечора пильность чинила (АВК, XI, 167, 1668).

**2.** *Заключэнне, канец, вывад.* на конц8 тоей конституціи, тыи слова мѣсто завартьѧ приписано (Апакр., 25).

**3.** *Мяжа, граніца, акружэнне.* князь Якубъ ... домъ... с пляцомъ отъ кгрунту ажъ до верху въ мурэхъ, в границахъ и в завартью своемъ маеть (АВК, XX, 15, 1568); татарове... перве<sup>s</sup> за каспи<sup>s</sup>ским морем в завартъю горы иманюс и танси-ци<sup>s</sup>ских скал ... мешкали (Стрыйк., 488).

**Заварухъ** *наз. Сутычка, сутыкненне, канфлікт.* ознаймуемо симъ нашимъ асосорскимъ листомъ ... для замѣркованья справы и заваруховъ промежку его милости пана Яроша ... а поддаными мѣщаны (АСД, I, 255, 1617).

**Заварxолитися** *дзеясл. Пачаць сварыцца, спрачацца.* бурду и зваду панъ Новицкий съ паномъ Борковъскимъ межы собою зачали и зъ собою заварxолилися (АВК, XVIII, 284, 1625).

**Заваснеый** *дзеепрым. Падбухтораны, варожы.* видѧчи людъ на себе велми заваснены<sup>s</sup>, котории сѧ 8же радою ни намовою жадного 8нѧти не моглъ. 8теклъ з мѣста не з боѧзни ѧкой, ѡдно з на8ки гд҃неи (Пралог, 556).

**Заваснение** *наз. Нязгода, спрэчка, варожасць.* они ... зачымъ есмо в заваснени з собою будучи в милости братерское жыти не могли (АВК, XXXII, 330, 1590); га<sup>s</sup>на гетман дивные маючи заваснениѧ з евтропием коли 8слышал иж так подвышшоны<sup>s</sup> ест б8ритсе на цесара пана своег почал (Бельск., 296б); вамъ всимъ не есть тайно, якіе заваснения а затяги суть межи ихъ милостью паномъ Еронимомъ... а межи его милостью паномъ воеводою Виленскимъ (АЮЗР, II, 58, 1609).

**Завасникъ** *наз. Нядобразычлівец, злоснік.* его завасницы мовили, иж лвове накормени были добре прето ем8 дали поко<sup>s</sup> (Бельск., 155б).

**Завбожати** *дзеясл. Збяднець.* кгды есмо за (ве)ликимъ драпежствомъ отъ замку знищены были и за то есмо завбожали (АВК, XVII, 395, 1541).

**Завдавати** *дзеясл. Закранаць.* Задѣваю: Накладаю, Исход, ҃ка. за плечи завдаю. быт: ҃кв. (Бяр., 47).

**Завдати** *дзеясл. Закрануць.* Задѣша: Завдали. Метаѳ: прим8сили (Бяр., 47).

**Завдовети** *дзеясл. Стаць удавой.* котораѧ скоро завдовевшы сн҃а своего неаниѧ... в балвохвалствѣ выховала (Зб. 752, 100).

**Завдовилая** *дзеепрым. ад* завдовети. невѣста завдовилаѧ и зоставленнаѧ в долгах великих з двома сынами волала за ним (Зб. 752, 354).

**Завдячати** *дзеясл. Выказваць удзячнасць.* завъдячаючи учинность, которую мне учинивъши у высвобоженю отъ обовязъку малженъского противънымъ не былъ и до закону иноческого одпустилъ (ИЮМ, X, 209, 1647).

**Завдячне, завдячно** *прысл. З удзячнасцю, у знак удзячнасці.* Десѧтый грѣхъ не терпѣти а не пріимати завдѧчьне што богъ



доп8щаеть (Будны, 8); мы отъ того Якуба Андреевского маемъ принять завдячне сполна, такъ, яко онъ тамъ постановитъ (АВК, XXII, 239, 1565—1566); 8слышавши т8ю реч цесарове завдѧчне принѧли (Стрыйк., 450); которое шафоване тыхъ помененыхъ шафаровъ церкви светого великого Спаса мы вси одностайне отъ нихъ завдячно принявшы (ИЮМ, VIII, 301, 1610); Доброволныи шлюбы 8стъ моих при<sup>s</sup>ми прошу завдѧчне гд҃и, и судов твоих на8чи мѧ (Пс. XVII, 140); Памѧтайте мой побытъ, мой ѡтходъ, завдѧчне пріймовати ѡт Бг҃а сами жити бачне (Лям., 20).

**Заведанье** *наз. Нагляд, распараджэнне, кіраўніцтва.* таковое кождое именье братского заведаня и записы на то будучие ни во што оборочаем (Ст. 1529, 35); тую школу р8скую з р8къ вашых до владзы и заведаньѧ своего взѧвшы (КЛС, 114, 1597); панове сеніорове збору Виленского ... ему въ завѣданье тое имѣнье оставили (АВК, VIII, 556, 1603). *Парайн.* заведенье II.

**Заведати** *дзеясл.* **1.** *Уведаць.* Заведаешь иже иногды б8деть немоць легка. а прироженіе крѣпко и почнеть лѣкаръ чинити по дстоѧнію а малым ѡмылитсѧ (Арыст., 419).

**2.** *Наглядаць, мець у сваім распараджэнні.* шьто монастырское здавъна, тое бы аръхимандритъ заведалъ, а къ монастыру бы тягъло (АВК, XI, 4, 1398); нехай они и тепер[ь] перевозъ з мытомъ заведають по давному (КЗ, 222—223, 1488); тыи и тепере мають служити к замку нашому Полоцькому — маеть их заведати наместъник наш полоцкии (ПГ, II, 175, 1500); которы<sup>s</sup> на тот час ѡт нег в Менск8 мыта заведает (ККСС, 141б, 1616); ѡт них заведали атамани, и боискаки приеждаючи ѡт тыхъ атамановь имовали. с Подльскои земли данъ (Увар., 99); таковые данины або именьѧ не мають быти 8 Епспа или 8 Господарѧ въ рукахъ<sup>s</sup>, но Діакони, на тое ѡт верныхъ избраніи, мають оныѧ завѣдати (Будны, 93); тотъ Матей з дому моего жоны моей девку невольную взялъ, именемъ Ганну, немъку, которая заведала всю маетность мою и в ключохъ в мене была (АВК, XXII, 150, 1565); ѡны<sup>s</sup> дмитрь наги<sup>s</sup> мел господ8 8 могилеве 8 терешка, которы<sup>s</sup> проск8ры заведалъ при цр҃кви ст҃го николы (Барк., 172); Архиепископу Луце судити и радити дела духовные ... заведати, подле давного обычаю по городамъ и по местомъ нашымъ (ИЮМ, I, 361, 1620).

**Заведение** *гл.* заведенье I

**Заведеный, заведенный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* завести *ў 1 знач.* онъ же заведенъ былъ ѡт ерусалима (Скар. КЕ, 5б); иссъ заведенъ былъ дх҃ом<sup>s</sup> в<sup>s</sup> пустыню на пок8шен<sup>s</sup>е ѡт д<sup>s</sup>ѧвола (Цяп., 4б); Даниилъ по<sup>s</sup>маны<sup>s</sup> есть зараз з царемъ иѡахимом ѡт навходоносорѧ царѧ и заведены<sup>s</sup> до мѣста вавилонского (Біблія, 554); заведени б8д8чи з легкостю до земли неприѧтел-

скои. померли перед поганскими балвани (Бельск., 236б); непріѧтелми в҆ горкȣю неволю заведены, и тѧжкою роботою были покараны (Мак., 126); Іѡсифъ теды был заведенный до Егvптȣ и кȣпилъ егѡ Пентефріи требенецъ фараѡновъ (Хран., 63б).

**2.** *Ад завести ў 2 знач.* ѡни длꙗ моего змышленꙗ и длꙗ трохи сказителного живота, были в блудъ заведены (Кн. Мак., 50).

**3.** *Ад завести ў 3 знач.* тому народу вашому, неȣместностью заведеному и ȣтрапеному, допомогаючи. митрополита вашого, владыкъ и ȣчителеи ваших до того прозбами вашими вели (Цяп. Прадм., 270); за новое олово до боулъ прикладаное, што днь золото ѡт людей заведеныхъ лоупѧтъ (Апакр., 171б—172); люд заведены҆ до веры ... а дрȣгихъ до житиꙗ досконалшого и законного провадꙗт (Зб. 255, 308б).

**4.** *Ад завести ў 4 знач.* врядники пана Бонаревы тое мыто додержатъ до того року, поколѣ тое мыто пану Бонару заведено (АЗР, II, 33, 1507); не досыт дей еще на том маючы, бояре и подданые митрополые тамошные, иж болшая и лепъшая часть имъ заведена и других лесов и кгрунтов им не заведеных немало собе привлащают (АВК, XXX, 15, 1589); оурѧдом нашимъ абы того перестерегали пилне порȣчимѡ, што стороны дѡбръ цркѡвныхъ котѡрые ѡт прѡдковъ, ихъ рѡзным осѡбамъ розданы и заведены сȣть, на котѡрые бы тые посесорове права не мѣли, абы были до цркви привернены (Апакр., 37).

**5.** *Ад завести ў 5 знач.* вели померу и границу от петы копца засыпаного, стеною, заведеною от пана Андреаша и мерники померу зачали (АВК, XXXII, 413, 1598); заведеным҆ ѡт Бга границамъ анѣ ѡтнѧти хто можетъ што, анѣ приложити (Каліст, II, 15—15б); Горожа цминтара на Луполове коло святого Василыя на рынку давное церкви будучое, а гымъ часомъ презъ жыдовъ неверныхъ рынекъ былъ заведеный (ИЮМ, VI, 114, 1689).

**6.** *Ад завести ў 6 знач.* именье Богдановское ... было заведено в суме пенезей (АВК, XXII, 437, 1570); му послужил до ѡтысканѧ имене҆ ѡстрога и иншихъ през пна лаского, воеводу сирацкого, кролеви августови заведеных (Еўл., 14); подали есмо домъ съ пляцомъ нашъ мескій власный, всему месту належачый, никому ни въ чымъ не пенный не заведеный, и въ суме пенезей никому инъшому не подписаный (ИЮМ, VIII, 374, 1622); пани малжонцѣ его милости въ той же сумѣ помененымъ декретомъ всказаной, правомъ влевковымъ ... признаными записами заведеный (АВК, XV, 430, 1681).

**Заведенье, заведение** I *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* завести ў 1 знач. Потомъ бысть лѣта тридесѧт҆ ѐемого заведениѧ Іоакима царѧ іюдина до вавилона (Скар. ЧЦ, 240б); ꙗкъ бовѣмъ в҆ Іерслімѣ ѡлтареви оуслȣгȣючій ѡгонь; часȣ заведенѧ албо полонȣ засыпанъ былъ в҆ ꙗмѣ (Мак., 90).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* завести ў 3 знач. през зрадȣ людскȣю през хитрость до заведеніѧ в҆ блȣд (Каз. Кір., 46б); мы, бысмо з҆ оутратою и заведеньемъ дши своей оного доходити мѣли (Апакр., 200); Гды члвкъ оустȣпил приказаньѧ, которогѡ взѧлъ былъ, и под сказнь гнѣва подпалъ, а ꙗко бы в҆ заведенье, безчестіе, и на копан҆е крȣшцѡвъ, з҆ райскихъ роскошіи, на сесь свѣтъ былъ выгнанъ (Мак., 378); Кознь ... зрада, засадзка, вымысломъ прохирствомъ, завѣдѣнье (Бяр., 65).

**3.** *Дзеянне па дзеясл.* завести ў 4 знач. ꙗ подлȣгъ заведенꙗ ꙗковова тȣю пꙗть копъ жита нажалъ (КВЗС, 29, 1537); мы особы за заведенемъ от его млсти тых сеножатей нашыхъ ... под вси варунки и обовяски в сем листе нашом описаные оной особе держачой доброволне се поддаем и подлегаемъ (АВК, XXXII, 322, 1596).

**4.** *Дзеянне па дзеясл.* завести ў 6 знач. тепер[ъ] за тымъ заведеньемъ въ суме п[е]н[е]зей въ заставе именей... его кр[олевская] милость ... достаточного выхован[ь]я ... столу своего господарского ... мети не рачыть (КПД, 351, 1565).

**5.** *Свара, непрыемнасць.* за которою меною урос был межи насъ посварокъ и не малое заведенꙗ (ИЮМ, XXXII, 19, 1578); въ томъ жалуючой акторцѣ явне заведенье, лечъ презъ неякогось пана... воротъ замкненье, грошей непринятье (АВК, XV, 442, 1683).

**6.** *Звычка, звычай.* великой моцы Бжей справа естъ, поганѡмъ такъ великое в҆ незбожности заведене маючим оувѣрити (Каліст, II, 170б).

**7.** *Сведчанне, паказанне.* Коли бы которая сторона окроме тых чотырох причин не стала; тогды другая сторона за своим врадным доводом перед ездоки на то выставлеными мает реч свою одержати подле заведеня светков присяглых (Ст. 1529, 67).

**Заведенье** II *наз. Тое, што і* заведанье. тые староства и державы и лѣсничства до нихъ належачые въ держанье и въ заведенье абы были даваны людемъ народу Литовского, у великомъ князствѣ Литовскомъ добрѣ осѣлымъ (АЗР, IV, 2, 1588).

**Заведивати** *дзеясл. Тое, што і* заведовати. игуменъ Тупичевскій самъ ... маеть быти, тымъ отъ насъ ... фундованымъ монастиромъ Тупичевскимъ завѣдивати (АСД, II, 66, 1641).

**Заведованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* заведовати. панъ скарбный ... тые вси речы водлугъ того реестру в заведованье служебнику своему пану Ивану Кмите подалъ (АВК, XX, 137, 1598); Только тотъ, хто по мнѣ зостанеть, въ завѣдованью и владзы своей тую церковъ съ твинтаромъ ... будетъ меть (ИЮМ, XXII, 382, 1660). *Параўн.* завядованье, завядыванье.

**Заведовати** *дзеясл. Наглядаць, кіраваць, мець у сваім распараджэнні.* Мають то старшіе, отъ всего братства будучи выбраные, то есть, старосты, провизоры братскіе нынѣшніе... тое имѣничье судерви, ... держати и завѣдовати и въ моцы своей мѣти (АВК, XI, 57, 1594); котѡрымъ на том҆ же соборѣ ꙗко сѧ в҆ пришломъ роздѣле припоминало, цр҃кви толко римови прилеглые завѣдовати врꙋчено (Апакр., 135б); ку суженью припала справа ... о неслушное презъ обжалованого заведуючи стругами...всѣ гроши на свой пожитокъ оберненье (АВК, XV, 470, 1685); Оурѧдъ Економства, естъ Маетностѧми Епископскими завѣдовати (Зб. вып., 73). *Парайн.* заведивати, заведывати.

**Заведовца** *наз. Наглядчык, кіраўнік, той, хто нечым распараджаецца.* ку суженью припала справа ... зъ ойцомъ Павломъ Тарасовичомъ — завѣдовцою и господаромъ маетности Свиранъ (АВК, XV, 396, 1678); отобрали отъ тыхъ же заведовъцовъ клепачовъ золот. пятдесятъ пять (ИЮМ, VII, 8, 1690). *Парайн.* завядовца.

**Заведучый** *дзеепрым. ад* заведати *ў 2 знач.* могуть тежъ быти доводы листовъные ... такежъ квиталки и реестры ревизоръскими на ѡтмены даными и иными листы и реестры заведꙋчыми, або ꙋвꙗжчыми ꙗко ѡ томъ шыре҆ ниже҆ ...естъ написано (Ст. 1588, 241).

**Заведуючий** *дзеепрым. ад* заведовати. На рокахъ судовыхъ ... припало справа... о кгвалтовное ... найсте... хлопца ... Остафея ключами въ томъ фольварку заведуючого (АВК, I, 346, 1679).

**Заведываный** *дзеепрым. ад* заведывати. который самъ же зъ завѣдываного и выбраного податку чопового ... выличать се повиненъ (АВК, XV, 518, 1686).

**Заведыванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* заведывати. мають обирати по чотыри чоловѣки, которымъ въ завѣдыванье тотъ манастырь и вси пожитки и доходы его отъ себе въ дозоръ поручати до рукъ (АЗР, IV, 52, 1592); помененые Римашевскій зъ помочниками ... вкрадшисе до скарбцу, въ завѣдыванье пану Павлу Каминскому повѣроного... злота, серебра... выкрадши (АВК, V, 74, 1695).

**Заведывати** *дзеясл. Тое, што і* заведовати. нехай онъ мыто нашо и промыту завѣдаеть подавному какъ первые мытники завѣдывали (АЮЗР, II, 122, 1509); Нехаи о*н* тые ко*р*чмы заведаеть по тому, ка*к* иншие пере*д* ты*м* заведывали (ПГ, III, 43, 1509); в коморе власных речей его ... не мало было, за ведомостю и ключемъ служебника его милости, который тых речей заведывал (АВК, XXXVI, 30, 1582); Маетъ онъ ... всими доходами съ того епископства приходячими завѣдывати (АЗР, IV, 529, 1632).



**Заведываючий** *дзеепрым. ад* заведывати. Василей Сергиевич жаловал на ... Ждана Богдановича, ремесло кушнерское з ураду для постереганіа іаких подсадных фортелев заведываючого (ИЮМ, XXXII, 65, 1578); покладалъ процесъ ... врадникови заведываючому тымъ дворцомъ (АВК, I, 325, 1651).

**Завезаный** *гл.* завязаный

**Завезати** *гл.* завязати

**Завезеный** *дзеепрым. ад* завезти. я при смерти, а ни при погребе малжонка моего не была, але отослана и завезена есми на онъ часъ въ именью Вейсейскомъ (АВК, XVII, 436, 1563); па*н*на ... захорала и бѣсноватою зостала, а*ж* ю аверки҆ ст҃ы҆ до римꙋ завезены҆ през молитвꙋ ѡ*т* диꙗвола выбави*л* (Бельск., 240); обачилъ бовѣмъ великій вѣрою Бг҃овидецъ Моѵисей, теплаго в҆ вѣрѣ словꙋ самовидца Петра. ѡбачылъ завезеный возомъ и кон҆ми ѡгнистыми ꙗко на нб҃о, и смр҃ти, до ты*х* часѡв҆ неподлеглый дв҃ъственникъ Іліѧ (Карп., 2); до ехвесꙋ ѡнаꙗ его ѡблюбе*н*ка лꙋцѣѧ завезена ... была (Зб. 82, 107). // *У кароткай форме н. роду ў якасці гал. члена безасаб. сказа.* Тамъ же воды бочку завезено (ИЮМ, I, 190, 1681).

**Завезка** *гл.* завязка

**Завезовати** *дзеясл.* **1.** *Змяшчаць, утрымліваць.* всякіе бремена речи посполитое... тые Ляхове полънити не хотятъ, ани могуть, въ чомъ же немалая шкода земъская завезуеть (КПД, 23, 1538).

**2.** *Забяспечваць.* хочю ти написати два крѫги ... а каждыи ѡ*т* ни*х* ѡсми частеи, а ими тобѣ завѣзꙋю вси ѡбыходы достатиѧ и*х* (Арыст., 154); в чомъ ихъ боязнею Божою и сумненемъ завезую (АВК, XX, 230, 1612).

**Завезоватися** *дзеясл. Змяшчацца, утрымлівацца.* все что поминано во книзе сеи издолга завезѫетсѧ во кратце во крꙋзе*х* си*х* (Арыст., 154).

**Завезти, завести** II *дзеясл. Везучы, даставіць куды-н.* завезеть васъ опѧть гсдь богъ до египта в кораблех҆ (Скар. ДЗ, 55); ошацовалемъ шкоду на возовъ сена тридцать, што завести можетъ однымъ конемъ (АВК, XVIII, 159, 1598); завезите ѡ*т*цꙋ и домо*м* ваши*м* збожъе (Біблія, 94); феѡдора и феѡфила ѡн*ы*҆ ѡкрꙋтни*к*, мꙋчивши на выгна*не* ꙗко се выше҆ повѣди завезти каза*л* (Бельск., 366б); онъ естъ, который, на колесницы огне*н*ной, Ілію до раю завѣ*з* (Карп., 20); слꙋги злосливые ча*ст* людꙋ накидавши на глꙋбокое море завѣзши ... в море выкидали (Зб. 107, 86б); далъ гсдь в҆ рꙋцѣ егѡ Іѡакіма цр҃ѧ Іꙋдейскаго и часть начиньѧ домꙋ бж҃его, и завезлъ ихъ до земли сенааръ до домꙋ бг҃а своегѡ (Хран., 357); злы҆ ца*р* ... на море ѡные ст҃ыѧ кости завезти и ꙋтопити каза*л* (Зб. 82, 34б).

**Завенути** *дзеясл. Павеяць.* если вѣтры Дх҃а ст҃го в҆ дш҃ꙋ егѡ не завѣнꙋтъ, албо ѡболоки нб҃ныи не повстанꙋтъ, а дождъ

з` Нба не зст8питъ, и не ѡдвижит дши, не б8детъ мочи Гсд8 годных` овецѡвъ чинити (Мак., 244).

**Заверати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* завирати *ў 3 знач.* покладал рейстръ ... списаня кгрунтов меновите урочищами и як много моркгов кгрунту в собе заверают (АВК, XXX, 317, 1606); роз8меют же тог ѡбраз заверает в собѣ бозство (Зб. 261, 207); о мито процесъ учиненый, который въ собѣ всю жалобу ихъ милостей завераетъ (АВК, XV, 70, 1662).

**2.** *Тое, што і* завирати *ў 5 знач.* христіане досконалою моцю ѡболокшисѧ, и нбсн8ю бронь до р8къ взѧвши если хоч8тъ роскош8ютъ з` шатаном, покой завѣрают` и войны не вед8тъ з` нимъ (Мак., 259); Грѣхи з` оумысл8 полнѧчіи з` дıаволом приѧзнь завѣрают (Там жа, 252).

**Завератися** *дзеясл. Змяшчацца, замыкацца.* бгъ всемог8щы` сотворил добро, в которым всѣ речи` доброе сıа заверают (Зб. 261, 79); панъ Цитринскій ... въ самомъ собѣ завераетсе, розезнавать и самого себе познать не хочетъ (АВК, XV, 518, 1686).

**Заверещати** *дзеясл. Закрычаць.* дѣти Альбединовы заверещали, же онъ у огороде (АВК, XVII, 377, 1541); былъ в` згромаженью ихъ чоловекъ, в` д8х8 нечистомъ, и заверещалъ, мовечі, занехай, што намъ и тобе ис8се назареньский, пришолъ еси губити насъ (Цяп., 44); коли двери ѡтворилъ по`зрѣвши царъ на столъ заверещал голосом великим (Біблія, 559); коли на том слове станул а мовит перестал, люд ввес заверещал и през двѣ годины тыи слова повтарал (Бельск., 266); заверещалъ, рат8`те, рат8ите: ѡво мене Смокъ поглотити хочетъ (Пралог, 518); заверещалъ весь людъ, и реклъ: нехай живетъ црь (Хран., 209).

**Заверение** *наз. Занядбанне.* Надъ дщерою блѧдливою оукрепи сторожу, абы некогда не вделала тобѣ посмѣху предъ врагы твоими: и безчестиѧ во граде и заверженıѧ в людехъ (Скар. ІС, 68).

**Заверженый** *дзеепрым. Занядбаны, адкінуты.* наделали собѣ жерцевъ з` людей заверженыхъ, и поставили ихъ во храмехъ кумирских (Скар. ЧЦ, 222); погублю весь родъ ахавовъ даже до немощнаго и до плѣненнаго и даже до заверженаго в людехъ ізраилевыхъ (Там жа, 202б).

**Заверненый** *дзеепрым. Загорнуты.* нашли ...в той скрыни сома великого порезаного, у хусту заверненого (АВК, XVIII, 252, 1620).

**Заверненье** *наз. Кружэнне.* Бѣснованіе. Неистовство: заверненье головы, шаленъство, ѡд8рѣнье (Бяр., 11).

**Завернути** *дзеясл.* **1.** *Павярнуць, змяніць напрамак руху.* тры возы фурманские ... одъ мосту ку замку завернули (АВК, XX, 196, 1602); того днıа спознившысıа завернула на нощъ до манастырıа енафы (Зб. 752, 1б).

**2.** *Паварочваючы, змяніць становішча чаго-н.* завернеть главу ему ко криломъ, тако абы 8 горла висела глава (Скар. КЛ, 12); у ланцухъ, тыранско, немилосерне, паствечысе надъ кровю хрестиянскою, на шыю, на ноги и на руки железа, назадъ руки завернувшы, оковать казалъ (АВК, XVIII, 267, 1623).

**Завернутися** *дзеясл.* **1.** *Павярнуцца; зрабіўшы паварот, змяніць сваё становішча.* коли ж коло завернетсıа и вдаритсıа коло ѡб коло (Алекс. 1697, 1б).

**2.** *Закружыцца.* вшедши до лазни голова се ем8 заверн8ла и 8пал 8 кипıач8ю вод8 и 8мерлъ (Бельск., 286).

**Заверный** *прым. Годны веры.* листы... под печатю нашою с канцлереи корунное албо великого кнзьства литвского заверные (Прыв., 109б).

**Завероный** *дзеепрым. Засведчаны.* зъ стороны пана Каспора Гановицкого тотъ урадникъ его Качановскій и панъ Федоръ Глядъ, маючи до тое всее справы моцъ завѣроную и слушное злеценье... вѣчистую угоду... тежъ принели (АВК, VI, 148, 1592).

**Заверта** *наз. Вяровачная дэталь конскай вупражы.* Ужыцы на заверты и въ запасъ на дорогу, паръ шесть (ИЮМ, VI, 131, 1689); на заверты до возковъ, купили пенки (ИЮМ, X, 33, 1695).

**Завертатися** *дзеясл. Звяртацца.* теперь такъ кгродскіе, яко и земскіе, у суду вашмостей о субселія завертаючесе, на штожъ ихъ милость гдѣ индей ексцыпуютъ форумъ (АВК, XI, 276, 1697).

**Завертети** *дзеясл. Абкруціць.* odyn Litwin zsiade z konia, y zawerty chwost sobie około ruki... y wdaryt konia y perepływet reku z koniem (Бых., 507).

**Завертка** *наз. Прыстасаванне для замыкання вокнаў.* Купили у слесара Каспера до обоконъ ратушныхъ завертки побеляныя чотыри (ИЮМ, VI, 46, 1689).

**Заверуха** *наз. Смута.* который подъ час прошълых заверуховъ и небеспеченства з монастыра своволне уехалъ (ИЮМ, XXV, 258, 1649); подъ теперешные часы заверухъ ... мели есмо схованье такъ по розныхъ местцахъ (АВК, XVIII, 397—398, 1660).

**Завершати** *дзеясл. Заканчваць.* с тых причын тую справу до розсудку суду головного трыбуналного одкладаемъ и завершаемъ (АВК, XXXII, 62, 1596).

**Завершенье** *наз. Завяршэнне.* заразъ ем8 Хс Гдь завершене всѣхъ цнѡтъ прекладаетъ, нестѧжаніе, тоестъ, вшелѧкого дочасного добра понехане и погоржене (Каліст, II, 182б).

**Заверыти** *дзеясл. Змясціць.* тые тры аѳекты мает в собе заверыт (Зб. 261, 99).

**Завеса** *наз.* **1.** *Заслона.* въкрасили ю многими стыми образы, и завѣсами (Чэцця, 36); Вделаешъ и завесу ростѧгнену т8

